# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1967

Ліпень-Жнівень

Год XV

№ 4 (103)

ЗЬМЕСТ:

ДОКТАР ФРАНЦІШАК СКАРЫНА (1517—1967) • ПАВАЛ VI У ФАТІМА • БІБЛІЯ — СЬВЯТОЕ ПІСЬМО • З ЦАРКОЎНАГА ЖЫЦЦЯ • З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЦЯ З ЛІСТОЎ У РЭДАКЦЫЮ • З БЕЛАРУСКАЕ ПРЭСЫ • АПЭЛЬ ДА КУРЦОЎ • ДЛЯ ЦІКАВАСЬЦІ І НАВУКІ • ЗАГАДКІ.

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1967 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.
У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:

Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

Year XV July—August № 4 (103)
1967

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XV | ЛІПЕНЬ—ЖНІВЕНЬ | № 4 (103)

# Доктар Францішак Скарына

## да 450-годзьдзя яго Біблії (1517—1967)

6-га жніўня 1517 г. доктар ФРАНЦІШАК СКАРЫНА, сын Лукі, із слаўнага гораду Полацка надрукаваў у Празе Чэскай Псалтыр. Гэта быў пачатак першай надрукаванай кнігі БІБЛІІ Скарыны і народзіны першай друкаванай беларускай кніжкі.

Праўда, ужо ў Кракаве ў 1491 г. немец Швайпольт Фіэоль надрукаваў некалькі кніжак у царкоўна-славянскай мове, якая мела таксама пэўны сутык зь беларускай мовай. Выдавецкая аднак праца Фіэоля трывала надта коратка,бо пасьля выпуску пяці кніжак, ён сам быў абвінавачаны ў гарэзіі і мусіў уцякаць — ратавацца ў Мадзяршчыне.

Найраней пачалі выдаваць друкам Біблію чэхі: у 1506 г. выйшла гэтак званая вэнэцкая Біблія, зь якой карыстаў і Скарына.

Заўважым, што Скарына выдаючы апрацаваную ім Біблію апярэдзіў блізу ўсіх славянаў, а такжа і самога Марціна Лютара, якога Біблія, у перакладзе на нямецкую мову выйшла ў гадох 1522—1534.

Францішак Скарына прыйшоў на сьвет у старадаўным крывіцкім Полацку ў 1485 г. (аднак год нараджэньня яго ня ёсьць дакладна ўстаноўлены), сын каталіцкай сям'і, аб чым між іншым сьведчыць ягонае імя, прынесенае на Беларусь з Італіі разам з хрысьціянствам лацінскага абраду. Бяз сумніву пашыралі гэтае імя ў нас духовыя сыны слаўнага са сваей вялікай сьвятасьці Францішка з Асыжу (пам. у 1226), якія ўжо за часоў Міндаўга (1250—1262) былі ведамымі пры яго дварэ. За часаў Гедыміна (†1341) знаходзім іх у Вільні і ў Наваградку. Першыя віленскія біскупы Андрэй Васіло (1388—1398) і Якуб Пліхта (1398—1407) былі францішканамі. На пачатку XV стагодзьдзя спатыкаем іх у Драгічыне, у Пінску і ў іншых мясцовасьцях Вялікага Княства Літоўскага. Пры канцы XV стаг. яны ёсьць і ў Полацку. Варта заўважыць, што ў часе, калі акурат жыў і дзейнічаў Скарына, францішкане вельмі-ж былі ведамыя ўва ўсей Эўропе. У 1517 г. лік іхніх сяброў даходзіў да 50 000.

У 1504 г. юнак Скарына паступае ў Кракаўскі унівэрсытэт, дзе здабывае ступень бакалаўра філязофіі. У далейшым ён не пакідае студыяў. А ў 1512 яшчэ перад зданьнем эгзаменаў у Падуа і перад атрыманьнем тытулу доктара мэдыцыны, ён ганаруецца доктарам свабодных навук.

Памысна здаўшы эгзамены ў падуанскім унівэрсытэце, Скарына на нейкі час «гіне» нам з вачэй. У 1517г. знаходзім яго ў Празе Чэскай, занятага выданьнем кніг Сьвятога Пісьма або Біблії.

На працягу гадоў 1517—1519 Скарына выдаў друкам 23 кнігі Біблії. Узяўшы пад увагу тое, што кожная кніга Скарыны была папярэджана ўступам або пасьлясловам, упрыгожана застаўкамі і гравюрамі, — дык працу беларускага вучонага нельга інакш назваць, як натугаю генія і волата.

Кнігі Скарыны выходзілі з друкарні ў наступнай чарговасьці:

У 1517 г. 4 кнігі: Псалтыр, Кніга Іова, Прытчы Салямона, Прамудрасьць Сіраха. Разам 322 лісты друку.

У 1518 г. 8 кніжак: Экклезіяст, Песьня Песьняў, Прамудрасьць Салямона, І-ая Кніга Царстваў, ІІ-ая Кніга Царстваў, ІІІ-я Кніга Царстваў, ІV-я Кніга Царстваў і Кніга Ісуса Навіна. Усяго 350 лістоў друку.

У 1519 г. 11 кніжак: Іудыт, Кніга Судзьдзяў, 5 Кніг Майсея — Быцьцё, Выхад, Левіт, Лічбы і Другі Закон, Руф, Эсфір, Плач Ерэміі, Кніга Даніла, — усяго 524 лісты друку.

Дзеля няведамай нам прычыны Скарына спыніў выдавецкую працу ў Празе і пасьля стараўся працягваць яе ў сталіцы Вялікага Княства Літоўскага ў Вільні — у 1524 і наступных гадох. У 1525 г. тут друкуе ён «Апостал» і «Малую падарожную кніжыцу». Гэтая «малая» кніжыца ў сапраўднасьці мела даволі багаты і разнаякі зьмест. Там знаходзіліся: часаслоў, акафісты, каноны, шэсьцядневец, сьвятцы і пасхалія. Сярод акафістаў знаходзіліся прысьвячаныя «*Жыванsocнаму Гробу Господню*» (у сяньняшніх літургічных кнігах не спатыкаецца), арханелу Міхаілу, Іоанну Прадцечу, Багародзіцы, апосталам

Пятру і Паўлу і ўсім апосталам, сьв. Мікалаю, крыжу, Найсалодшаму Імяні Госпада Нашага Ісуса Хрыста. Каноны былі прысьвячаныя арханелу Міхаілу, Багародзіцы, апосталам Пятру і Паўлу і ўсім апосталам, крыжу, а таксама быў надрукаваны пакутны канон.

Пры акафісьце «Пренасветейшей Богородіцы Девіцы Маріі» знаходзілася гравюра Добравешчаньня.

Скарына сам шмат падарожнічаў і добра разумеў патрэбу падручнай кніжкі малітваў. Выданьнем сваей падарожнай кніжыцы або малітаўніка ён стараўся гэтую патрэбу здаволіць. Падобны пачын сьведчыць аб Скарыне, як аб чалавеку ня толькі пабожным, але і практычным.

Праўдападобна Скарына пераклаў усе кнігі Бібліі, аднак дзеля розных прычын ня мог іх выдаць. Дагадваюцца некаторыя, што ягоныя рукапісы пазьней у розных выданьнях былі выкарыстоўваныя.

Сяньня ёсьць устаноўленым на падставе архівальных дакумантаў, што у гадох 1525—1533 Скарына адведаў Маскоўшчыну і завёз у Маскву свае слаўныя кнігі. Аднак чужымі былі для масквічоў і беларускі вучоны і ягоныя ідэі. Па загаду Вялікага князя Маскоўскага Васіля III скарынаўскія кнігі былі публічна спаленыя.

У 1530 г. прускі гэрцаг Альбрэхт, даведаўшыся аб «пахвальнай вучонасьці і нязвычайных ведах» Скарыны, запрасіў яго ў Кенігсбэрг. Там праўдападобна спаткаў наш вучоны Паўла Спэратуса (Спрэтт), ведамага пратэстанскага прапаведніка, які тады выдаў друкам свае творы. Павал Спэратус у гадох 1524—1529 прабываў якраз у Кенігсбэргу, а ў 1530 быў высьвячаны на лютэранскага біскупа Помэраніі. Маемо доказы, што Скарына асабіста даручыў П. Спэратус'у свае біблійныя кнігі.

Розныя аднак справы хутка адклікалі Скарыну з Прусіі ізноў у Вільню, куды ён вярнуўся зь нейкім друкаром (? Ганс Вэйнрэйх) і лекарам, што вельмі не спадабалася гэрцагу Альбрэхту.

У Вільні меў Скарына судовыя справы з боку родзічаў ягонае жонкі, каталічкі, Маргарыты, удавы па Адверніку. Пасьля тое самае вынікла ў Пазнані, але ўжо са стараны яго брата Івана, які там пражываў і таргаваў футрамі. На нейкі час Скарына трапіў нават у вязьніцу.

У той-жа Вільні Доктар Скарына быў сакратаром, а так-жа і лекарам, віленскага біскупа Яна Ліцьвіна або «з князёў літоўскіх». Той Ян Ліцьвін быў няправым сынам Жыгімонта Старога. Кіраваў ён віленскай дыяцэзіяй у гадох 1528—1536 і шмат для яе зрабіў добрага. Дзеля розных інтрыгаў сваіх ворагаў быў перанесены ў Пазнань і там памёр у 1538 г.

Пасьля 1535 г. знаходзім ізноў Францішка Скарыну ў Празе ў Чэхіі, дзе на запросіны караля Фэрдынанда I (пам. у 1564) арганізуе батанічны сад.

З дайшоўшых да нас дакумантаў даведваемся, што Скарына меў двох сыноў: Сямёна Руса, які атрымаў па бацьку ў спадку яго кнігі, юрыдычныя дакументы і іншыя рэчы, і Францішка, які згарэў хлапчуком у часе пажару Прагі ў 1541 г.

Год сьмерці Доктара Францішка Скарыны, падобна як і год яго нараджэньня, ня ёсьць нам ведамы. Найбольш дапушчальнай датай сьмерці быў-бы 1540 г., значыць, нашаму першадрукару прыблізна было-б 55 гадоў, калі Бог паклікаў яго да Сябе.

*

Кожнаму, хто толькі неўпярэджана пазнаёміцца з асобай беларускага вучонага і яго працамі, кідаецца ў вочы яго глыбокая вера ў Бога ў Сьвятой Тройцы Адзінага, дый праўдзівае шырокае хрысьціянства Скарыны, яго шчырая пабожнасьць да Божае Маці, да Анёлаў і Сьвятых, яго любоў да роднага краю і да свайго слаўнага Полацку, аб якім ніколі не забывае. Пры ўсіх сваіх ведах і зацікаўленьні Скарына мае на мэце, як праводнюю зорку, служэньне «людзям паспалітым», значыць тым, што найбольш патрабавалі асьветы і абароны.

Скарына, як аўтэнтычны гуманіст, вельмі цікавіўся мастацтвам, тэалёгіяй, правам, друкаваньнем кнігаў, філялёгіяй, батанікай, мэдыцынай. Ён праўдзіва мог сказаць аб сабе: nil mihi alienum, quod est humanum!

Ня гледзячы аднак на разнаякасьць ведаў і нязвычайную яго рухавасьць, мы ня можам зрабіць Скарыне закіду, што быў павярхоўным, незраўнаважаным. Яго гравюры — прыкладам — уважаюцца за найлепшыя, якія толькі ў XVI стагодзьдзі ўбачылі сьвет.

Скарына сьведама імкнуўся «во велікіх послужыті посполітому люду рускога языка» і сапраўды гэта ён даканаў. Калі ён выдаваў сьвятыя кнігі, дык ня мог лічыць на нейкія вялікія з гэтага даходы. Таму ідэйнасьць і бескарысьлівасьць яго заслугоўваюць на вялізную з нашага боку пашану.

Зусім тады слушна сказаў аб Скарыне іншы наш выдатны вучоны Е. Карскі: Мы маем у асобе Скарыны адукаванейшага чалавека свайго часу, які ніколі ня ўступаў тагачасным заходня-эўрапэйскім дзеячам ні сваім розумам, ні энэргіяй і сваімі высокімі замысламі».

(Далей будзе)

*а. Ф. Журня*

# ПАВАЛ VI У ФАТІМА

13-га траўня г. году Папа Павал VI-ы адбыў самалётам пілігрымку ў Фатіма (Партугалія), каб адчыніць Юбілейны Год — 50-ці гадоў — памятку першага дня, калі Божая Маці аб'явілася траім дзецям, пастушком — Люцыі, Яцынце і Францішку. Інтэнцыя пілігрымкі была — памаліцца пра супакой у Хрыстовай Царкве і на цэлым сьвеце. У гэты дзень — паміма дажджу — сабралася звыш мільёну народу. Партугальцы вельмі цешыліся з прыезду Папы і хацелі яго пабачыць і прывітаць, хоць было загадзя абвешчана, што Папа прыяжджае як прыватны пілігрым.

А між народам памяшаліся багатыя зь беднымі, вучоныя з простымі: усе стаялі і кленчылі на мокрай зямлі пры няспрыяльнай пагодзе, перажываючы ўспаміны здарэньня з прад 50-ці год, калі Божая Маці зьяўлялася кожны раз 13-га штомесячна дня, заклікаючы Партугалію і ўвесь сьвет да пакуты. Гэта было ў 1917 годзе, калі канчалася I-ая вайна і ўжо тады Божая Маці прадказвала, што пагражае II-ая вайна, далёка страшнейшая чым I-ая.

Цяперашняга Юбілею дачакала толькі адна з успомненых дзяцей, Люцыя, а Яцынта і ейны брацік Францішак памярлі ў наступным 1918 годзе, калі пашырылася ў Эўропе бедамая пошасьць-гарачка назыв. «Гішпанкай», ад якой вымерла шмат мільёнаў людзей з усяго сьвету.

Люцыя ёсьць манахіняй кармэлітанкай: яна ня была 40 гадоў у Фатіме. У часе сьв. Літургіі прыняла Прычасьце з рук Папы, які прыняў яе там-жа на кароценькай аўдыенцыі і даў ёй апостальскае багаславенства.

У набажэнстве бралі ўдзел прадстаўнікі партугальскага ўраду, хоць папская візыта ня мела характару афіцыяльнага.

Зьявіўся там неспадзявана савецкі пісьменьнік Еўтушэнка. Пыталіся яго карэспандэнты, ці ён верыць у Бога і ці ня думае напісаць які памфлет аб Фатіме? Ён адказаў: «Я веру ў майго Бога, а мой Бог ёсьць Праўда». Далей казаў, што ня выпадае сьмяяцца з глыбокіх перакананьняў і пачуцьцяў людзкіх. Наадварот, прызнаўся, што знайшоўся тут пад уплывам узрушаючага ўражаньня і мае намер напісаць паэму пра Фатіму і ейнае сьвята.

Яшчэ перад прыездам Папы ішоў дождж і падчас Літургіі паўтарыўся, але гэта ня перашкодзіла набажэнству, толькі больш яшчэ ўпрыгожыла выгляд, калі паўмільёна парасонаў усялякага колеру расчынілася над морам людзкіх галоў.

Сьв. Літургію служыў сам Папа, а пасьле зьвярнуўся да народу ў партугальскай мове з сардэчным словам, вітаючы ўсіх прысутных, а з гэтым і да ўсяго сьвету, асабліва да хворых і цярпячых, каб разам з Ісусам Хрыстом ахвяраваліся Богу Айцу за свае грахі і за правіны ўсяго сьвету. Адносна Царквы Папа спэцыяльна адзначыў, што моліцца за Царкву, «якую заснаваў Хрыстос — Царкву Адзіную, Сьвятую, Каталіцкую (значыць, Паўсюдную) і Апостальскую».

Далей Папа выясьніў, чаму моліцца за Царкву. А гэта таму, што некаторыя верующыя — пад уплывам цяперашняга неспакойнага часу — часу перавароту ў людзкіх думках і ў спосабе жыцьця — паддаюцца спакусе зьмяняць нязьменныя Божыя Праўды. Імкнуцца Божую Праўду дапасаваць да сваіх чыста людзкіх паглядаў і жаданьняў.



«Мы хочам — кажа Папа — маліцца, каб Божая Любоў цяпер і заўсёды панавала над цэлым сьветам, каб ягоныя законы кіравалі сумленьнем і абычаямі сучаснага чалавека».

І яшчэ Папа ўспамінае пра народы, якія знайшліся ў няволі камуна-атэізму.

«Гэтая думка ўзмацняе нашую малітву . . . пераносіць нас да тых народаў, дзе рэлігійная свабода ёсьць амаль зусім адабраная, дзе атэізм аб'яўлены найбольш рэпрэзэнтатыўнай праўдай цяперашняга часу, як вызваленьне народу». — «Молімся за веруючых сярод іх, каб унутраная Моц Божая іх падтрымлівала і каб сапраўдная вольнасьць ім была прызнана».

Другая інтэнцыя малітвы Папы была за супакой на цэлым сьвеце. «Вы ведаеце, — кажа ён — што сьвет знаходзіцца ў фазе вялікіх пераменаў, дзякуючы дзіву годнаму поступу навукі. Але вы можаце лёгка бачыць, што сьвет ня ёсьць шчасьлівы — ёсьць неспакойны. Здаецца, што ўсё павінна весьці сьвет да братэрства і адзінства, але на жаль сэрцы людзей разьбівае нязгода, якая трывожыць усіх».

Дзьве прычыны, кажа Папа, робяць цяперашнюю, гістарычную сытуацыю сьвету труднай: 1) Вялізарнае збраеньне, якое пагражае згубай чалавецтву і 2) Маральнае разьвіцьцё людзей, якое далёка асталося ад поступу навуковага і тэхнічнага.

І яшчэ горшая справа, што вялізарная частка людзей сьвету знайшлася ў недастатку і голадзе. Яны ўжо прабудзіліся і бачуць сваю бяду, а ведаюць аб дабрабыце іншых народаў, сярод якіх, або побач якіх жывуць. Таму Папа кажа, што *сьвет ёсьць у небясьпецы.*

«З прычыны гэтага мы сяньня прыбылі да парогу Княгіні Супакою, каб прасіць яе аб дар, які можа даць толькі Бог — дар супакою. Так, Супакой — Дар Божы, які вымагае Божай добрай, міласьцівай і таёмнай інтэрвэнцыі».

---

*Я. Савіцкі*

# Біблія — Сьвятое Пісьмо

Слова БІБЛІЯ паходзіць ад грэцкага: па грэцку гэтае слова азначае «кнігі» (бібліон — кніга): значыць, з усіх кнігаў сьвету — кніга з кнігаў — самая найважнейшая — гэтая назова прысвоена Божай Кнізе, у якой зьмяшчаецца Божае Слова.

Яшчэ папулярна гэтыя кнігі называюцца СЬВЯТЫМ ПІСЬМОМ або і проста ПІСЬМОМ (па лаціне SCRIPTURA) і дзеляцца на СТАРЫ і НОВЫ ЗАПАВЕТ.

Тут паўстае нямала паважных пытаньняў: I. Што гэта? II. Хто яго пісаў? III. Каму было пісана?

Адкажам ясна: — Так, мы ўсе разумеем, што гэта Пісьмо — Сьвятое, бо прыйшло ад Бога. Але ці яно пісалася Божай рукою?

Аднак нам ведамыя толькі два выпадкі, калі Бог пісаў Сам: у Старым Запавеце пісаў на дзьвюх каменных табліцах Майсею — 10 запаведзяў. І ў Новым Запавеце пісаў Хрыстос сваею рукою, але толькі на пяску пальцам, калі фарысеі дамагаліся, каб асудзіў грэшную жанчыну; — дый што тады пісаў, няведама: праўдападобна, нешта няпрыемнае для фарысеяў, бо яны, як пабачылі, ціханька адступілі ад Хрыста.

А ўсю рэшту Сьв. Пісьма пісалі людзі натхнёныя праз Сьвятога Духа, дык таму мы кажам, што Сьв. Пісьмо — ад Бога.

I. Гісторыя рэлігіі нам сьветчыць, што людзі пазнавалі Бога праз натуру; шукалі Бога, складалі Яму ахвяры і маліліся да Бога ў сваіх патрэбах. Ведама, што такое пазнаньне было няяснае: часам людзі — пад страхам, ці з цікавасьці, ці зь іншых прычынаў — множылі багоў, ці рабілі ахвяры неадпаведныя, нават зь людзей, бо ня мелі праўдзівых вестак зь неба.

Вось у такой вялікай патрэбе людзі — лепшыя і разумнейшыя — малілі Бога каб аб'явіў Сам Сябе і сказаў сваё Слова: ня толькі пярунамі і карамі, але каб загаварыў словам людзкім, зразумелым — голасам ці пісьмом . . .

І БОГ ГАВАРЫЎ! Ведаем, што гаварыў ужо зь першымі людзьмі перад грахом іх і пасьля граху. Дый ня толькі гаварыў да сьвятых, а нават і да грэшнікаў; стыдзіў, пагражаў і праклінаў братабойцу Каіна. Гаварыў да справядлівага Ноя перад патопам і пасьля.

II. Нарэшце Бог выбраў асобны народ, які размножыў і багаславіў: гэта быў народ АБРАГАМА, ІЗААКА і ЯКУБА. Ад Якубовага сына ІУДЫ гэты народ называецца Іудэйскім або Жыдоўскім. Яшчэ прыймаюць імя ІЗРАЭЛЬ — другое імя Якуба.

Ад Абрагама пачынаецца новая эпоха ў чалавецтве: Бог дае жыдоўскаму народу *аб'яўленьне,* якое мела значэньне для ўсіх людзей на сьвеце, але жыдоўскі народ стаўся *выбраным* народам у Бога. Спачатку Бог гаварыў самому Абрагаму, Ізааку і Якубу і ад іх перадавалася традыцыя дзецям і ўнукам.

Ня будземо паўтараць усяе жыдоўскае гісторыі, але адразу пераходзім да найважнейшае асобы — *да Майсея.* Праз Майсея Бог сказаў сваё яснае слова, аб'явіў сваё Імя і даў свой ЗАКОН: так пачаўся СТАРЫ ЗАПАВЕТ.

Майсей быў добра прыгатаваны да такой важнай місіі: радзіўся ў жыдоўскай сям'і, але быў выхаваны і адукаваны на двары фараона. Маючы вялікія прыродныя здольнасьці і правы характар, патрапіў асьцерагчыся егіпецкіх фальшывых поглядаў і блуднай рэлігіі. Верыў у праўдзівага Бога сваіх продкаў — Абрагама, Ізаака і Якуба і маліўся аднаму Богу.

Быў гарачым патрыётам свайго прыгнечанага народу, але ня ведаў, як яму памагчы. Нарэшце мусеў уцякаць перад помстай фараона і шмат гадоў правёў у Сынайскай пустыні як найміт-пастух.

Пасучы авечкі на пустыні, мусеў мець моцнае здароўе, сілу і адвагу, каб бараніць стада ад дзікіх зьвяроў, найбольш ад магутнага льва. На пустыні, у вечнай самоце, меў ідэальны супакой, каб разважаць тое, што дасюль бачыў, ведаў і пеWhile ражыў. Так зжыўся з суровай прыродай і з Богам, якому маліўся за свой няшчасны народ.

Аж выбіла гадзіна Божага *міласэрдзя:* Бог аб'явіўся Майсею ў палаючым кусьце. Там Бог сказаў яму сваё Імя — «ЯГВЭ» — «ЯГОВА», значыць, «ТОЙ-ШТО-ЁСЬЦЬ» ці САМАБЫТНЫ. І Бог загадаў Майсею вярнуцца ў Егіпет і вывесьці жыдоўскі народ у абяцаную зямлю, у Палестыну.

Так пачаліся дзіўныя падзеі жыдоўскае гісторыі. Жыдоўскі народ у гэтай падарожы то слухаў Майсея, маліўся праўдзіваму Богу і жыў справядліва; або бунтаваўся супраць Бога і не хацеў слухаць Майсея і клікаў помачы фальшывых егіпецкіх багоў. Тады Бог пасылаў народу цяжкія кары. Дык зноў жыды вярталіся да Бога і пакутавалі... І так усё блуталася — аж дайшло да поўнага бунту, што хацелі забіць Майсея і вярнуцца ў Егіпет! За гэта Бог змусіў іх вярнуцца ў пустыню, дзе 40 гадоў блукаліся — аж цалкам вымерла старое непаслушнае пакаленьне.

Бог даў ім на гарэ Сынай 10 запаведзяў, якія пасьля Хрыстос пацьвярдзіў для ўсяго сьвету.

Увесь аб'яўлены Божы Закон Майсей сьпісаў у пяці кнігах: гэтак пачалася БІБЛІЯ — Стары Запавет, якую пасьля пісалі далей (сваю гісторыю) Ісус Навін і Судзьдзі, а пасьля Цар Давід (псальмы), цар Салямон (прыповесьці) і нарэшце пракрокі.

Далей пяройдзем да Новага Запавету.

III. Стары Запавет быў прыгатаваньнем да НОВАГА ЗАПАВЕТУ.

Як Майсей быў першым і найважнейшым прарокам у Старым Законе, так ІСУС ХРЫСТОС быў як СЫН БОЖЫ, БОГ і ЧАЛАВЕК, найважнейшым Прарокам, Царом і Сьвятаром Новага Закону.

Стары Запавет быў прызначаны толькі для жыдоў, а да ўсяго сьвету тасаваўся толькі ўскосна; але Новы Запавет ёсьць прызначаны непасрэдна да ўсяго чалавецтва: няма ўжо ў ім ніякага «выбранага» народу, хоць часта некаторыя народы пробавалі накідваць іншым сваё духовае верхаводства і называлі сябе народамі «месыянскімі», дый навязвалі сваю мову ў набажэнстве, а ганьбілі мову іншых («простых») людзей.

У Новым Запавеце пісалі апосталы і эвангелісты: ён складаецца з 4-ох Эвангельляў і з Апостальскіх Лістоў; а ў канцы — прароцкая кніга апостала Яна, Апокаліпса — Адкрыцьце. — Гэтай кнігай канчаецца ўся Біблія і больш ужо нічога да яе нельга прыбавіць.

*

Аб Бібліі ў апошніх часох гаворыцца вельмі шмат ува ўсіх краёх сьвету; робяцца пераклады на ўсе мовы сьвету. На мовы вялікія і ведамыя, асабліва на эўрапэйскія, робяцца пераклады новыя з арыгінальных тэкстаў — з гэбрайскага, грэцкага і лацінскага: апрацоўваюць паважныя вучоныя, паважна сьвятары.

На мовы новых народаў і дзяржаваў, асабліва ў Афрыцы і Азіі, таксама перакладаецца Біблія — паводле магчымасьці — поўная, або прынамсі Новага Запавету.

Новы каталіцкі пераклад Бібліі ў мове францускай выпушчаны ў 1961 г.: над ім працавала блізка 60 вучоных.

Польскі пераклад з 1965 г., выданы пад рэдакцыяй аа. Бэнэдыктынаў: над ім працавала таксама вялізарная група вучоных біблістаў.

Украінскі пераклад — з 1963 г. Перакладчыкам быў а. Іван Хомэнко, але апрацавала гэтае тлумачэньне Біблійная Камісія ЧСВВ (Васіліянаў); мову пераглядала іншая група вучоных, а тэхнічнае афармленьне зрабіла група спэцыялістаў з Біблійнае Камісіі. Затое і вонкава і зьместам Украінская Біблія выйшла вельмі паважнай і прыгожай кнігай.

Аб перакладзе на беларускую мову можам сказаць шмат цікавага, але і нямала сумнага.

Пачалося гэта надта рана, бо ўжо ў 1517 г. Францішак Скарына пачаў друкаваць у Празе Чэскай «Рускую Біблію», (так калісьці называлі нашую мову). Аб гэтай Бібліі украінскі а. Іван Хомэнко кажа на бач. XIX, што «носіць беларускія ўплывы». Пасьля Ф. Скарына перанёс друкаваньне ў Вільню. Цяпер гэтая старая Біблія з'яўляецца «белым крукам»: некаторыя кнігі знайходзяцца ў Брытанскім музэі ў Лёндане.

З навейшых перакладаў ведамы ёсьць Новы Запавет і Псальмы Антона Луцкевіча, друкаваны перад І-ай вайною ў Вільні; перадрукаваны ў Лёндане ў 1948. Апрача таго ёсьць яшчэ пераклад а. Пятра Татарыновіча, надрукаваны лацінкай у Рыме ў 1954 г. Дый у ім толькі 4-ы Эвангельлі і Апостольскія Дзеі. — Быў яшчэ пераклад Кс. Вінц. Гадлеўскага перад вайною (лацінкаю). Там былі 4-ы Эвангельлі; але гэты ўжо вычэрпаны і на эміграцыі яго ледзь ведамы адзін эгзэмпляр. — Быў яшчэ зроблены пераклад Апостольскіх Дзеяў Кс. Адама Лісоўскага, аднак — здаецца — ня быў друкаваны.

Старога Запавету, колькі мне ведама, ня было зусім. Пару гадоў таму пачалі перакладаць на белар. мову з гэбрайскага ў Амэрыцы др. Гітлін і др. Янка Станкевіч. Гэты пераклад ужо, як мы чулі, закончаны, але толькі Стары Запавет, дый дзеля нейкіх перашкодаў чамусьці ня друкуецца.

Значыць, беларусы ня могуць у гэтым раўнавацца ня толькі з вялікімі хрысьціянскімі народамі, але нават з шматлікімі чорнымі афрыканцамі, якім місіянэры стараюцца ўкладаць граматыкі і працуюць для разьвіцьця іхнае культуры. — Але беларусы ня мелі шчасьця ад сваіх (няпрошаных) апякуноў, якія або забаранялі друкаваць па беларуску (у царскай Расеі да 1905 г.), або рабілі вялікія перашкоды (у Польшчы). Яны-ж не дапускалі беларускае мовы ў касьцёлах і цэрквах дый наагул брыдзілі нашую мову перад простым народам, навязваючы свае мовы. — Так Беларусь асталася (ў сярэдзіне Эўропы) ў горшым палажэньні, чым нэгры ў сваіх джунглях. — А цяпер нам стыдна перад усім сьветам!

(Далей будзе)

## *З царкоўнага жыцьця*

ВАТЫКАН: СКАНДЫНАВІЯ ў ПАЎЛА VI-га: Каралі Швэцыі, Даніі і Нарвэгіі, як-бы згаварыўшыся, гэтай вясною наведвалі Італію, Рым і Ватыкан. Гэта вельмі характэрныя візыты пратэстанскіх каралёў у Рымскага Папы — тымбольш, што каталікоў у Скандынавіі надта мала, а краі тыя прайшлі праз лютае прасьледваньне каталіцтва ў XVII і XVIII-ым стагодзьдзі. — Асабліва ўрачыстае было прывітаньне караля швэдзкага Густава V-га 16. IV. 1967 г.

*

«ЯН XXIII-ДЗЁННІК»: Гэтая кніжка-дзённік выйшла ў Рыме ў 1964 годзе пасьля сьмерці Папы «Добрага Яна», як яго паўсюдна называюць, і перакладаецца на розныя мовы сьвету. Дзённік пачынаецца 1898-ым, калі Язэп-Анёл Ронкаллі (Папа Ян XXIII-ці), меў 15 гадоў. Нататкі, пісаныя пераважна раз у тыдзень у маладосьці, а пасьля яшчэ радзей, вельмі шчырыя, становяць як-бы бязупынны рахунак сумленьня сьвятога чалавека, які судзіў сябе перад Богам нязвычайна сурова і — з пакораю ды малітваю — імкнуўся да глыбокае любові Бога і бліжняга.

*

ПАВАЛ VI-ы прыняў на аўдыенцыі пілігрымку з Югаславіі з правінцыі Бачка; прыбыла з біскупам Звекановіцам. У прамове да іх Папа сказаў, што з радасьцяй прыймае іх. Тымбольш, што гэта ёсьць першая візыта зь Югаславіі ад часу ІІ-ое сусьветнае вайны.

Таксама з Югаславіі прыбыла вялікая пілігрымка з Славэніі — 2500 асобаў: яны сёлета абходзяць 1200 гадоў Юбілею — хросту свайго народу. У прамове да іх Папа гаварыў: «Вашая пілігрымка ў Рым набірае асаблівага значэньня як праўдзівы акт веры. Так як вялікія апосталы славянскіх земляў Сьвятыя Кірыл і Мяфод скіраваліся да Рыму, каб атрымаць ад Пятровага Пасаду пацьверджаньне іх місіі, так і Вы сяньня ўвайшлі ў іх сьляды, каб падзякаваць Госпаду за дар атрыманае веры».

*

ПАВАЛ VI-ы пачаў візытацыю сваей Рымскай дыэцэзіі і адправіў урачыстую Літургію ў царкве Сьв. Яна Лятэранскага: гэтая базыліка лічыцца катэдрай Рымскай дыэцэзіі. Папа кіруе сваей дыэцэзіяй праз свайго заступніка-вікарага, якім ёсьць цяпер кардынал Траглія.

Падчас Сьвята Божага Цела Павал VI-ы зьвярнуўся з заклікам да кіраўнікоў дзяржаваў усяго сьвету, каб стараліся знайсьці спосаб раз-

рашэньня канфлікту на Блізкім Усходзе, бо гэта небасьпека для ўсяго чалавецтва. І ў гэты самы дзень, Павал VI-ы, прамаўляючы да пілігрымаў, што сабраліся на пляцы Сьв. Пятра, заахвочваў іх да малітвы аб супакоі ўсяго сьвету, бо Сьв. Эўхарыстыя ўстаноўлена таксама «для лучэньня ў адно ўсіх хрысьціянаў».

✳

24-га траўня Папа прыняў пілігрымку зь Ветнаму. У сваей прамове да іх Папа падкрэсьліў, што моліцца за ўвесь ветнамскі народ, разьдзелены вайною, які пераносіць нязьмерныя мукі з прычыны зацягненае вайны. Папа выразіў радасьць, што гэтыя пілігрымы былі разам зь ім у Фатіме, дзе былі злучаныя з усімі прысутнымі ў малітве аб згодзе цэлага сьвету і аб заканчэньні вайны ў іхнім краі, Вьетнаме.

Павал VI-ы прыняў на аўдыенцыі праваслаўную дэлегацыю, якая прыбыла на чале з мітрапалітам з абтоку Крыту, каб падзякаваць Папе за зварот рэліквіяў (мошчаў) сьв. Тытуса, вучня сьв. Паўла апостала. Мітрапаліт дастаў у падарунку япіскапскі крыж і том пастановаў II-га Ватыканскага Сабору.

✳

АНГЛІЯ: Англіканскі арцыбіскуп др. Рамсэй заснаваў камісію, якая мае мэту правесьці рэвізію 39-і артыкулаў Англіканскае Карты (веры), ў каторых быў выражаны характар анты-каталіцкі. Цяпер тая «Карта» ўжо перастарэла (з 1562 г.) і зьяўляецца вялікай перашкодай да злучэньня Цэркваў. У камісію ўвайшло 17 прафэсараў англіканскае тэалёгіі. Дасюль кожны духоўны ў англіканскай Царкве мусеў тую «Карту» прызнаць і падпісаць перад уваходам на сваё становішча.

✳

НЯМЕЧЧЫНА: Канфэрэнцыя нямецкіх біскупаў у гор. Фульда пастанавіла навязаць бліжэйшыя зносіны з Праваслаўнаю Царквою і дзеля гэтага выслала дэлегацыю духоўных на чале з біск. Рудольфам Грабэрам. Дэлегацыя найперш наведала Канстантынопаль і запрасіла патрыярха Атэнагора І-га прыбыць у Нямеччыну ў гор. Мюнхэн; у паваротнай дарозе дэлегаты заехалі ў Баўгарыю да патрыярха Кірыла, а пасьля ў Югаславію да патр. Германа. У найбліжэйшым часе дэлегацыя мае паехаць у Сав. Саюз, каб наведаць патр. Аляксея.

Паведамляюць, што ў Нямеччыне пагражае небясьпека скасаваньня каталіцкага школьніцтва: ужо некаторыя аўтаномныя краі парабілі рашучыя крокі ў гэтым напрамку. Справа пагражае сарваньнем канкардату з Ватыканам. Апостальскі Пасад залажыў пратэст супраць аднастароннага разрашэньня школьнае палітыкі ў аўтаномных краёх дзяржавы.

У БЭРЛІНЕ сабраліся першы раз пасьля адыходу пратэстантаў ад Каталіцкае Царквы прадстаўнікі, вучоныя біблісты, каталіцкія і пратэстанскія, каб прыступіць да апрацаваньня супольнага тэксту БІБЛІІ. Гэта супольны пераклад будзе перад усім патрэбны ў супольных малітвах, а таксама ў радыё і тэлевізіі.

✳

БЭЛЬГІЯ: Бэльгійскія біскупы, сабраўшыся ў Бруксэлі, пастанавілі вярнуць сталы дыяканат, які быў прыняты ў апостальскай Царкве. Дасюль у Каталіцкай Царкве дыяканства зьяўлялася ступеняй пераходнай да сьвятарства, але Ватыканскі II-гі Сабор прызнаў, што дыяканы будуць карысна працаваць як памацнікі сьвятароў і біскупаў.

✳

АЎСТРЫЯ: Катал. часапіс «Клерусблятт» заклікае духавенства сьвецкае і законнае, каб налажылі на сябе падатак, 2—3 працэнты ад даходаў, на патрэбы ўбогіх народаў сьвету. Ужо шмат якія біскупы ўвялі такі асабісты падатак і выплачываюць яго рэгулярна. І сам Папа пры нагодзе сваей візыты ў Партугаліі (13 траўня ў Фатіме) ахвяраваў 200 мільёнаў ліраў на патрэбы бедных, а для самой сьвятыні ў Фатіме пакінуў сваё літургічнае аблачэньне дый келіх, мітру і пастарал.

✳

Каталікі і пратэстанты ў Аўстрыі зьвярнуліся з заклікам да ўсяго сьвету ў справе барадзьбы з праказай: з ахвяраў вернікаў будзе заснаваны навачасны асяродак для пракажаных у мясцовасьці Гідакон у Гімаляях, а таксама разбудова калёніі для такіх хворых у мясц. Куркеля ў Індыі. Гэта толькі пачатак . . .

✳

АМЭРЫКА — ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ: Паўстала камісія для справаў жанімства, якая складаецца з каталікоў, пратэстантаў і жыдоў. Кіраўніком яе ёсьць рабін Мардохай Брыль.

ВАШЫНГТОН: Сёлета асьвячэньне пальмаў адбылося ў касьцеле сьв. Стэфана ў характары экуменічным: брала ўдзел духавенства англіканскае, мэтадысты і лютэране. Пальмы (вербы) асьвяціў сьвятар каталіцкі, а казаньне гаварыў сьвятар англіканскі.

ФІЛЯДЭЛЬФІЯ: Арцыбіскуп ЯН КРУЛЬ (цяпер ужо ён кардынал) быў прысутны на пратэстанскім духоўным сабраньні, дзе адбылася нарада 27-мі розных іхніх цэркваў. На гэтым сабраньні арцыб. Круль меў лекцыю аб патрэбе лучнасьці між хрысьціянамі.

КЛЕВЭЛЯНД: Айцец Данн, рэктар каталіцкага ўнівэрсытэту ў Клевэлянд, атрымаў у падарак ад жыдоўскай гміны экзэмпляр Талмуду. Мясцовы рабін выявіў, што а. Данн няраз выступаў у абароне жыдоў дый аддаў адну унівэрсытэцкую салю для гэбрайскага літургічнага набажэнства, калі жыды з прычыны пажару сынагогі ня мелі дзе маліцца Богу.

✳

ФРАНЦЫЯ: У Парыжу паўстала група веручых — каталікоў і іншых хрысьціянаў дый магамэтанаў і жыдоў, якія назваліся «Таварыствам Абрагама»: мэта іх — збліжэньне і супраца ў супольных справах веручых людзей для большае Божае славы. За Патрона Таварыства ўзялі Абрагама, якога аднолькава паважаюць хрысьціяне, магамэтане і жыды.

ЛІЁН: Сабін Сэнт-Гаудэнс, сьвятар-работнік, які жыў і працаваў у Ліёне, у асяродзьдзі самых бедных працаўнікоў, назначаны й пасьвячаны на біскупа ў горадзе Тулюза, дзе пераважна работнікі належаць да камуны.

✳

ШВАЙЦАРЫЯ: Штогодняя кампанія вялікапосная, якую праводзіць Каталіцкая Царква, прынесла ў 1966 годзе 8 500 000 швайц. франкаў — ахвяраў, сабраных на справы міласэрдзя і помачы бедным. Зазначаем, што каталікі ў Швайцарыі становяць 45% насельніцтва краю, які мае 6 мільёнаў жыхароў.

✳

АРАБІЯ: Кароль Фэйсаль запрасіў да сябе каталіцкіх карэспандэнтаў, зь якімі адбыў сардэчную размову. Трэба зазначыць, што ў цэнтральнай Арабіі няма ніводнай хрысьціянскай сьвятыні!

✳

АФРЫКА — НІГЕРЫЯ: Каталіцкая Царква мае ў Нігерыі мільён вучняў у сваіх школах і 44 шпіталі, у якіх прыймаюць у працягу году да двух мільёнаў хворых. Мясцовае духавенства — 8 біскупаў, 175 сьвятароў і 256 студэнтаў-клерыкаў.

✳

АФРЫКА — РУАНДА: 1 282 248 каталікоў, БУРУНДІ — 1 760 607 катал., ГАБОН — 230 000 катал. Лік мясцовага духавенства штогод узрастае, але патрэбы яшчэ большыя!

✳

ЯПОНІЯ: Каталікоў 333 000, сьвятароў 1300, а ў гэтым 603 мясцовых. Наагул Японія лічыцца адным з найтруднейшых краёў для місіяў. Аднак каталіцкія школы разьвіваюцца ў Японіі памысна, асабліва унівэрсытэт «Софія» ў Токіё. Найлепш ідзе місія ў гор. Нагасакі, дзе — на жаль — шмат каталікоў згінула ад атомнай бомбы, якую скінулі амэрыканцы. У 1945 г. былі кінены дзьве атамныя бомбы — ў Гірашыме і ў Нагасакі.

✳

САВЕЦКІ САЮЗ: Паводле апошняе статыстыкі Праваслаўная Царква ў СССР мае: 5 мітрапалітаў, 33 архіяпіскапаў і 35 япіскапаў. Сьв. Сынод пры патрыярху Аляксею — 4 ерархаў: архіяп. круціцкі Пімен, архіяп. кіяўскі Філарэт (ён ёсьць эгзарх Украіны) і архіяп. Эстонскі Аляксей. Як бачым, менскі архіярэй не трапіў у Сынод, ані таксама не мае тытулу эгзарха Беларусі. А беларуская каталіцкая царква не мае ані аднаго біскупа, ані духоўнае сэмінарыі!

✳

ГРЭЦЫЯ: Дэлегат Канстантынопальскага Патрыярха заявіў у Афінах, што Патр. Атэнагор І-ы «працуе над вялікай справай злучэньня хрысьціянства, бо такая ёсьць воля нашага Госпада і такое ёсьць імкненьне нашае эпохі». І ў іншым выпадку Патрыярх сказаў, што ўжо адчыніліся вокны ў Цэрквах Усходу і Захаду, а трэба зара адчыняць і дзьверы.

Праваслаўная дэлегацыя з абтоку Хіёс прыбыла ў Вэнэцыю, каб прыняць ад Патрыярха Урбані рэліквіі (мошчы) свайго патрона сьв. Ізыдара, які ў 230 годзе быў замучаны падчас прасьледу веры Хрыстовай на востраве Хіёс. Гэтыя мошчы ў 1125 годзе былі перавезены ў Вэнэцыю, каб ратаваць іх ад магамэтанаў, што набліжаліся і займалі грэцкія землі. Хоць каталікі прывыклі да такіх усходніх сьвятых і будавалі на іх чэсьць нямала сьвятыняў, аднак у апошніх часох Каталіцкая Царква — у духу экумэнізму — зьвяртае Грэцыі ейных сьвятых, хоць прайшло ўжо больш як семсот гадоў іх прабываньня на Захадзе.

АФІНЫ: Вайсковы рэжым у Грэцыі приступіў да рэформы ў адміністрацыі Праваслаўнае Царквы: нікога ня пытаючыся, зьменшылі колькасьць Сыноду з 12-ці на 8 і самы Сынод перавыбраны нанава. Пасьля пастанавілі, што вольнае месца новага япіскапа займе кандыдат, якога выбярэ кароль з трох кандыдатаў, якіх яму вызначыць Сынод. І нарэшце кожны япіскап пасьля 80-ці гадоў веку мусіць уступіць з свайго пасаду. І так аўтаматычна адыйшоў стары архіяпіскап Хрызастом, а на яго месца вызначаны і пасьвячаны архімандрыт Геранім. А гэты — чалавек высокае навукі і паступовы — адразу павёў новы парадак у грэцкай Царкве: паехаў з візытам у Канстантынопаль і прызнаў экумэнічную дзейнасьць Патрыярха да злучэньня хрысьціянства, да чаго папярэднік (Хрызастом) адносіўся вельмі няпрыхільна.

# З беларускага жыцьця

## ЮБІЛЕЙ УЛАДЫКІ СЛОСКАНА

У нядзелю 28-га траўня беларуская калёнія ў Бэльгіі адсьвяткавала 50-тыя ўгодкі сьвятарства Яго Дастойнасьці Уладыкі Балеслава Слоскана, Апостальскага Адміністратара Менскага і Магілёўскага.

Раніцай дастойны Юбілят адправіў сьв. Імшу ў капліцы манастыра Монт Цэзар, дзе ён стала жыве. Акрамя беларусаў з Бельгіі, на Імшы былі таксама прысутныя настаўнікі і вучні Школы сьв. Кірыла Тураўскага з Лёндану, якія ў тым часе былі ў Бэльгіі на экскурсіі.

Пасьля Імшы, пры кубку кавы, а. Аўгень Смаршчок прывітаў Уладыку Слоскана ад імя беларускай калёніі ў Бэльгіі і ад быўшых беларускіх студэнтаў Лювэнскага унівэрсытэту. Таксама вітаў Уладыку кіраўнік школы сьв. Кірыла, а. А. Надсон.

Пры супольным абедзе ў студэнцкай сталоўцы вучні Школы сьв. Кірыла цешылі прысутных сваімі песьнямі і дэклямацыямі. Хоць іхніх выступаў ня можна параўнаць да выступаў слаўнага некалі беларускага студэнцкага лювэнскага хору, аднак было прыемна зноў пачуць у Лювэне беларускую песьню.

## ЭКСКУРСІЯ Ў БЭЛЬГІЮ

У часе ад 26-га да 30-га траўня, карыстаючы з кароткіх канікулаў, вучні Школы сьв. Кірыла наведалі Бэльгію.

Выехалі з Лёндану ў пятніцу 26-га раніцай і пасьля амаль цэладзённага падарожжа цягнікам і параплавам прыехалі ў Лювэн, дзе ў манастыры айцоў бэнэдыктынцаў Монт Цэзар было нарыхтованае для іх памешканьне. Перадусім першая «манастырская» вячэра, пасьля якой адзін 12-ці гадовы спэцыяліст у справах ежы выразіў наступную глыбокую думку: «Трэба прызнаць, што кормяць тут, як належыцца». Пасьля завялі хлопцаў у іхнія спальні. Захапленьню ня было канца, калі даведаліся, што кожны будзе мець сваю асобную «кельлю». Затое перасьцярога не рабіць шуму ня вельмі спадабалася... Было яшчэ досыць рана і перад тым, чым ісьці спаць, хлопцы пасьпелі зрабіць знаёмства з манастырскай авечкай, якая там выконвала абавязкі касілкі і ўтрымоўвала ўсе траўнікі ў належным парадку.

У наступны дзень пагода выдалася надзвычайная, якраз адпаведная для зьведваньня Бруксэлі. Прыгожая сталіца Бэльгіі мае шмат чаго цікавага і таму ўсе не агледзеліся, як праляцеў дзень і трэба было вяртацца назад у Лювэн, не забыўшыся па дарозе заехаць у Ватэрлё.

Нядзеля была днём юбілею Уладыкі Слоскана і спатканьня з беларусамі з Бэльгіі. Пасьля абеду хлопцы зьведвалі Лювэн, асабліва месцы зьвязаныя з прабываньнем там беларускіх студэнтаў.

У панядзелак — паездка ў Антвэрпэн. Раніцай паехалі ў манастыр сясьцёр бэнэдыктынак у Скотэнгоф. Манастыр гэты зьяўляецца адным з экумэнічных цэнтраў у Бэльгіі і мае ўсходнюю капліцу. Некалькі манашак займаюцца маляваньнем іконаў і шмат іхніх твораў знайходзяцца ў царкве сьв. Пятра і Паўла ў Марыян Гаўз у Лёндане.



*Вучні Школы сьв. Кірыла каля «Атоміюм» у Бруксэлі*

Пасьля сьв. Літургіі і абеду ўсе паехалі ў Антвэрпэн — горад Рубэнса, — а адтуль, праз Ліеж і Мэхэлен, назад у Лювэн.

Аўторак 30-га траўня — апошні дзень экскурсіі. Раніцай выехалі з Лювэну і затрымаліся на поў дня ў Бруж. «Паўночная Вэнэцыя» ачаравала ўсіх сваей прыгожасьцю, хоць дождж крыху перашкодзіў у зьведваньні. На замацаваньне добрага ўражаньня з'елі апошні абед, у часе якога была зьнішчаная бязьмерная колькасьць бэльгійскай жаранай бульбы — г. зв. «фрыт», — лепшай за якую, паводле вышэй успомненага спэцыяліста, няма на сьвеце.

Тады зноў цягнік, які завёз хлопцаў у Остэнд, адкуль параплавам паплылі ў Довэр, а адтуль зноў цягніком у дажджлівы Лёндан.

Гэта была ўжо трэцяя — пасьля Нямеччыны і Італіі — загранічная экскурсія Школы сьв. Кірыла.

## ШКОЛЬНЫ КАНЦЭРТ У ЛЁНДАНЕ

У суботу 17-га чэрвня вучні Школы сьв. Кірыла ў Лёндане ладзілі свой гадавы канцэрт. Праграма была багатая і разнаякая. Хор выка-



*Хор вучняў Школы сьв. Кірыла на канцэрце ў Лёндане 17-га чэрвеня*

наў больш дзесятка песьняў, як рэлігійных (О мой Божа, веру Табе; О Божа, Спасе наш; Божа, што калісь народы; Маці наша добрая) так і патрыятычных і народных (Мы Беларусі вольнай арляняты; Люблю наш край; Ой у нашым сяле; Скрыпяць мае лапці; Не капайце крынічанькі; У месяцы верасьні; Зелянеюць, зелянеюць і інш.). З выступленьняў аркестры на ўвагу заслугоўваюць «Полька-Янка» і дуэт «Бульба» ў выкананьні Алеся Міхалюка (клярнэт) і Броніка Занковіча (трубка). Алесь Лошка на акардыёне зайграў, сярод іншых нумараў, «Лявоніху», «Крыжачок» і «Ой хмарыцца, дождж будзе». Малодшыя хлопцы выканалі на дудках «Лянок», «Юрачку» і «Баба Еўка, дзед Тамаш», перапляtаючы ігру сьпевам. Віктар Тур зайграў солё на дудцы старую прадзільную песьню (напеў з 18-га стаг. з Магілеўшчыны). Было таксама шмат дэклямацыяў, сярод якіх трэба адзначыць верш «Коцік» у выкананьні Антона Хахолкі і Алеся Калькі. Марк Саўка і Бронік Занковіч вельмі ўмела кіравалі канцэртам і сваімі жартамі развесялялі слухачоў.

Усе прызналі, што як пад узглядам выкананьня так і праграмы гэта быў адзін з найлепшых канцэртаў ладжаных да гэтага часу вучнямі Школы сьв. Кірыла.



*«Госьць» у Marian House і ў Школе сьв. Кірыла*

## ГАДАВЫ З'ЕЗД ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

У суботу 1-га ліпеня адбыўся ў Лёндане 21-шы з'езд Згуртаваньня Беларусоў у Вялікай Брытаніі. Старшынёй з'езду быў сп. Янка Міхалюк. З справаздачаў уступаючай Галоўнай Управы было відаць, што арганізацыя разьвіваецца памысна. Асабліва ўзмоцнілася фінансавае становішча і такім чынам стварылася база да больш прадуктыўнай культурнай дзейнасьці.

Новая Галоўная Управа была выбраная ў наступным складзе: сп. Павал Навара — старшыня, а. архім. Леў Гарошка — заступнік старшыні, сп. Янка Міхалюк — сакратар і сп. Павал Асіповіч — скарбнік.



*«LITHUANIA», маляўнічая, хоць вельмі недакладная мапа Вялікага княства Літоўскага, выданая Мэркатарам у палове 16-га стаг.* (З калекцыі Школы сьв. Кірыла Тураўскага ў Лёндане)

## ПАПРАЎКА

У мінулым нумары Б.Ш. на бач. 24 у вершы Артура Вольнага «Мой Скарб» закралася памылка. Апошні радок другой звароткі верша павінна гучаць: **узьнімаецца руньню да сонца,** а не «узьнімаецца да сонца», як там памылкова напісана.

# З лістоў у Рэдакцыю

БРАЗІЛЬ, ЭСТАДО ДЕ РІО:

Паважаны а. Рэдактар!

Напужалі Вы знаёмых маей хваробай, што я аж зьбянтэжыўся, ці не памёр я ўжо і ледзь дашчупаўся свайго пульсу, што яшчэ жывы!

Два месяцы прахвараваў нінарокам, а $1^1/_2$ праляжаў з прыпаднятай нагою. Пачалося з бразылійскае грыпы, а пры гэтым адкрытыя раны на правай голені — вельмі балючыя, якія ў старых людзей не заўсёды ўдаецца загаіць.

Ня цікавая была хвіліна — адзінокаму ў горах й нікагусенька блізка! Дачка, хоць і жывець у мяне, але карысьці ніякай, бо й ёй хворай трэ памагаць; значыць, ня было каго паслаць у аптэку па лякарства. Ежу неяк пітрасіў сам сабе й так усё... Што-ж? цярпеў, і лячыўся сам і зажывіў раны на назе. Пэўна паратаваў Божанька чымісьці малітвамі, за якія трэба маліцца і мне грэшнаму.

Цяпер ужо здаровы: хаджу па горных казьліных сьцежках бяз кійка, толькі падыймацца на гару горш, дый несьці штось, бо сэрца яшчэ недалечана. На гэта трэба шмат часу і лекаў, а яны тут надта дарагія.

Пагода дагодная для здароўя, бо зімой ня горача і паветра чыстае, калі няма дажджу. Дрэвы на горах зялёныя, на іх нават нейкія кветкі, што крыху пахнуць. А мора, на якое гляджу праз ваконца, цешыць здалёку і шлець супакой маім патрывожаным нэрвам. Гэтая цішыня ёсьць вялікай Божай ласкай для старога чалавека!

Ваш кліч — памагчы мне — сорамна... Дасюль Бог памагаў — не пакінець і ў будучыні: хто там захоча думаць аб іншых і турбавацца?..

*

Далей аб агульных справах.

У Бразыліі ў апошніх гадах шмат што зьмянілася на лепшае: у Сао Паўлё (гэта найбольшы горад) 7 мільёнаў народу. У Рыё дэ Жанэйро — $3^1/_2$ міл. Усё расьце, строіцца і харашэе: электрыфікацыя на воднай энэргіі рэк і вадаспадаў. Строяць аўтастрады ня толькі ў цэнтрах, але і ў далёкіх правінцыях. Расьце аўтамабільная прамысловасьць, толькі чыгункі трацяць вартасьць і занікаюць, бо даюць вялікі дэфіцыт.

Адыйшоўшы прэзыдэнт, паміма сваіх памылак, зрабіў нямала добрага: Кастусь Белы быў чалавекам цьвёрдым і энэргічным. Наводзіў парадак і прыцiскаў камуністых, якія да яго апанавалі краіну.

Новы прэзыдэнт абяцаў зрабіць край багатым і мілітарна сільным, дый патурбавацца аб бедных. Але ці зробіць?

Круцэйро (грошы) — паперкі не маюць ніякай вартасьці. Заклікалі чужаземны капітал — амэрыканскі, нямецкі, французскі, а найбольш японскі. Быў тут нейкі «кандыдат трону» з Японіі: спатыкалі яго з ганорамі. Радыё крычала, хвалілі японскую культуру. Мікада прысылаў прэзыдэнту прывітаньне і падзяку.

Японцаў у Бразыліі каля $^1/_2$ мільёна, найбольш у Сао Паўлё: большасьць прыехала па вайне з вострава Окінава. Яны борзда згуртаваліся і добра маюцца і ў значнай частцы каталікі. Але як наедуць пасьле даўнейшыя жаўнеры (з багіняй Аматэрасу), дык спачатку будуць пакорныя як авечкі, а як загнезьдзяцца, тады пакажуць сябе, як было калісьці ў Кітаі.

Бразылію яны гатовы былі заваяваць ужо пару дзесяткаў гадоў таму, але перашкодзіла Амэрыка. Гэта нацыя здаровая з моцнай дысцыплінай і дасюль яшчэ імпэрыя. Калі-б там прыйшла хрысьціянская рэлігія, дык яны стварылі-б дзейную царкву.

Найбольшае няшчасьце Бразыліі — гэта «акулы-фазэндары», значыць, абшарнікі, якія не прадукуюць патрэбнай народу жыўнасьці, але тое, што дае ім багацьце. Землі на вялізных фазэндах ляжаць аблогам і ніякі ўрад не навядзе парадку, бо ўрадоўцы — самі багатыя гаспадары.

Японцы ахвотна асядаюць на землях і працуюць заўзята, а самі бразылійцы нязьмерна лянівыя.

Разводзіцца пшаніца, кукурудза, бульба, рыс і чорная фасоля (фіжон), якой жывіцца пераважна бедната. Агароднiна дае таксама вялікі плён. Але што-ж? каб не спэкулянты, дык лёгка пракарміўся-б увесь край з надвышкай, але ўрад не дбае аб гэтым.

Праз шалёную спэкуляцыю марнуюцца нязьмерныя багацьці краю, але ўрад не зьвяртае на гэта ўвагі, бо пераважна заняты палітыкай. І да чаго гэта ўсё давядзе?.. **Віктар Небядовіч**

*

Вельмі Паважаны Айцец Рэдактар!

Калі можа хто з нашых суродзічаў прысылаў, каб памагчы доктару Небядовічу, дык далучыце з маіх прысланых... я хачу памагчы старому, які ў сваім часе памагаў другім.

Доктар В. Небядовіч ня просіць у нас, але нам досыць таго, што мы ведаем аб тым, у якіх ён абставінах жыве. А таму, што мы — вялікі і слаўны народ, дык не павінны пакінуць слабога і глухога свайго суродзіча, які прытым мусіць апекавацца хворай дачкой.

Мы павінны мець перад вачыма гонар нашых дзядоў. І мой дзед, хоць ня быў заможным гаспадаром, аднак невялікім запасам хлеба-солі дзяліўся з бяднейшымі. Аднойчы ў яго начавала некалькі бедных дзядоў, якія ня ўмелі з сабою падзяліцца без сваркі, дык мой дзед стараўся іх пагадзіць і надзяліць.

Нашыя бацькі і дзяды жылі ў горшых абставінах чым мы цяпер, але пакінулі нам прыклад свайго добрага сэрца. Вось-жа і я не магу не адазвацца на гэты заклік. Ведаю, што лягчэй даць, а пра-

сіць надта цяжка. Дый і ў маім жыцьці здарылася так, што я асьмеліўся прасіць, але ня было да каго зьвярнуцца, бо ўсе былі галодныя. Цяпер, калі Бог мне насылае помач, дык і я магу і павінен памагаць другому — такому!

15. V. 1967.

**Н-скі, Массачузэт**

*

ФРАНЦЫЯ, Сартрувілле, 5. VII. 67.

Высока Паважаны Ойча Рэдактар!

Пасылаем Вам гэты матар'ял да ведама. Мо хоць у кароткай зацемцы адзначыце факты. Мы паслалі ў гэтакім выглядзе і ў рэдакцыі «Бацькаўшчыны», Радыя «Свабода» ды «Беларуса».

**Уладзімір і Эвэліна Шыманцы**

## МАРАТОН БЕЛАРУСКАЙ ПЕСЬНІ І СКОКАЎ У ФРАНЦЫІ

З беларускай савецкае прэсы мы даведваліся часад-часу аб выступленьнях беларускіх мастацкіх гурткоў у сатэлітных ці іншых савецкіх рэспубліках, затое нічога ня было чуваць пра выступленьні іх у «капіталістычных» краінах.

Дзеля таго мілай неспадзеўкай для ўсіх тых, хто любіць і цікавіцца беларускай сцэнічнай творчасьцю, быў прыезд танцавальнай групы беларускага народнага хору з Менску, створанай і кіраванай Г. Цітовічам, ведамым з яшчэ перадваеннае пары зьбіральнікам беларускага фальклёру пад польскай акупацыяй. Як відаць, Г. Цітовіч ня спыніў сваёй дзейнасьці і ўдала яе праводзіць па сяньняшні дзень.

Нам давялося бачыць Г. Цітовіча зь ягонай групай у Ніўі над Сэкванай, арыстакратычнай мясцовасьці, ля самага Парыжу. Зь беларускага рэпэртуару яны нам паказалі танец «Беларуская Полька»: у яркіх і вясёлых, бела-чырвоных колярах група танцавальнікаў і аркестра цымбалістых і гарманістых надала настрой аўдыторыі, які трываў падчас усяго спэктаклю. Пасьля нам давялося бачыць «Юрачку», «Мяцеліцу», «Лявоніху». Усе скокі выклікалі буру воплескаў на салі.

Із сьпевакоў выступалі барытон Ігар Сарокін, які выканаў «Нёман, ой, бацка мой, Нёман!». Тамара Шымко — сопрано выканала «Ой, ня кукуй, зязюленька!». Выступаў таксама драматычны тэнар Зінові Бабі.

Але найвялікшы фурор выклікала Сьвятлана Данілюк, пяючы «Беларусь, мая песьня» – Семянякі. Амаль усім выканаўцам давялося выступаць з дадатковымі песьнямі на «біс».

Зь вельмі гарачым водгукам спаткаўся Аркадзь Астромецкі, які на цымбалах сыграў колькі беларускіх мэлёдыяў ды па майстэрску выканаў 2-ю Сымфонію Лішта.

Ірына Савеліна ды Валентын Давыдаў выканалі балетны танец на тэму вальс Шопэна і іншыя.

У праграме спэктаклю прадбачылася для кожнага выканальніка адну песьню беларускую, адну расейскую і адну заходня-эўрапэйскую-клясычную. — На гэтую тэму нам давялося гутарыць пасьля спэктаклю з артыстамі. Мы выразілі свае засьцярогі адносна гэткае праграмы, у тым сэнсе, што калі ўключэньне ў праграму расейскага рэпэртуару ёсьць неабходнае з увагі на палітычнае становішча Беларусі, то заходня-эўрапэйскі рэпэртуар зусім непатрэбны, бо гэты тут даступны ў арыгінальным выкананьні, зь якім беларускай рэпрэзэнтацыі канкураваць нявыгодна.

І сапраўды, ў вялікіх гарадах Захаду, калі хто ідзе на спэктакль, дык выбірае нешта канкрэтнае, як у гэтым выпадку беларускае мастацтва, якое ёсьць для Захаду тым цікавейшае, што мала даступнае. І раптам ён павінен дзьве траціны часу страціць на слуханьне, што можа мець штодзённа, калі гаворыць аб заходня-эўрапэйскія рэпэртуары і вельмі часта, калі ходзіць аб расейшчыну.

Артысты тлумачацца тым, што гэта робіцца для таго, каб паказаць свой высокі культурны ўзровень, што на нашую думку ёсьць якраз памылковым. Беларускае народнае мастацтва стаіць на гэтакім культурным узроўні, што можа свабодна канкураваць із заходнім ці расейскім клясычным і яго можна сьмела выстаўляць на найлепшых сцэнах сьвету. Зразумела, што трэба яго выстаўляць у арыгінальных формах, без навеяных звонку манер.

Што да самай арганізацыі паказу ў Ніўі зьяўляюцца сумныя засьцярогі. Перад усім рэпрэзэнтатыўны паказ рэспублікі, якая ў канстытуцыі ёсьць сувэрэннай і засядае ў ворганах Аб'еднаных Нацыяў, дык заслугоўваў-бы на больш адпаведную салю — так з рэпрэзэнтатыўнага гледзішча, як і акустычнага. І гэта асабліва акустыка салі выклікала засьцярогі з боку артыстых. Саля зусім не адказвала мэце, бо гэта была саля звычайная для спартыўных паказаў.

І цікава, што ў гэтым самым часе ў Парыжы выступаў гурток опэры і балету з Новасібірску, якому была назначана адна з найбольш рэпрэзэнтатыўных сцэнаў Парыжа і забясьпечаная штодзённая рэкляма як праз галасьнікі так і экраны французскай радыё-тэлевізіі. — Гэты ненармальны факт можна выясьніць толькі тым, што культурнае жыцьцё Францыі аказалася пад пагражаючым уплывам расейшчыны рэпрэзэнтаванай старой царскай эміграцыяй — аж нават французскае радавітае мастацтва моцна церпіць за гэтым. Дзіўна, што і цяперашні рэжым у Францыі, які на першы плян сваіх клопатаў ставіць прэстыж і веліч Францыі, замест спыніць гэты чужы уплыў, стварае ўмовы паглыбленьня яго.

Ня гледзячы на ўсе адмоўныя абставіны, група беларускае рэпрэзэнтацыі даканала шмат. Спэктаклі былі дадзеныя ў дваццаці шасьці гарадах Францыі ды дазволілі спаткацца зь беларускім мастацтвом дваццаці тысячам гледачоў.

З гутарак з артыстымі і з самым Спадаром Цітовічам мы даведаліся, што гэта не апошні выступ беларускае творчасьці ў Францыі. Спадзяёмся, што наступным разам таварыства, якое паклікана да арганізацыі гэтакага паказу, больш паважна патрактуе БССР.

*

Пералік гарадоў, дзе беларускі Ансамбль Песьні і Скокаў даў свае спэктаклі, пачынаючы 6-га траўня да 4 чэрвеня:

Віллебаўне, Грэнобль, Ст.-Этьенн, Бріве, Ангоўлеме, Лімож, Буаян, Ля Рош-сюр-Іон, Тоурс, Ст.-Назаіре, Брэст, Квіпэр, Эврон, Рэннэс, Ле Манс. Шартр, Роуэн, Бэтгюн, Тоуросінг, Аўльнэй, Доусі, Ленс, Ляон, Стайн, Нэўіллі, Орлі.

*

Нью Ёрк, 5. VII. 67

Дарагі Айцец Рэдактар!

Маю нарэшце нагоду напісаць пару слоў аб маіх апошніх прыгодах. Шчасьліва прыехаў у Нямеччыну. Кажуць, што сьвятар ніколі ня мае вакацыі ад свайго сьвятарства. Сапраўды так! І я меў досыць магчымасьці працаваць ува ўсей Заходняй Нямеччыне — аж дня 30-га чэрвеня пакінуў Франкфурт і прыляцеў у Нью Ёрк. — У дарозе спаткаў траіх славакаў, якім трэба было памагаць пры кантролі ў Нью Ёрку, таму што на вялікім амэрыканскім аэрапорце не знайшоўся ніхто іншы, які ўмеў-бы гаманіць хоць у якой славянскай мове.

Сяньня спатыкаў тут у Нью Ёрку розных сымпатычных беларусаў. Найперш трапіў у бюро «Радыё Свабода», а там былі нашыя суродзічы пры працы. Сп. З. расказаў мне аб дзейнасьці «Радыё Свабода»: усё для мяне новае

Далей бачыў я ўжо іншых беларусаў: з аднымі гаварыў, да іншых тэлефанаваў, а з усімі згаварыўся, што 9. VIII. маю служыць Сьв. Літургію ў манастыры аа. Пасіяністаў у Джамэйцы.

Шчыра кажучы, Нью Ёрк цяпер не зрабіў на мяне такога прыемнага ўражаньня, як тры гады таму. Аднак і тут людзі неяк жывуць, а нават ёсьць між імі шчасьлівыя!

Сардэчныя прывітаньні з Амэрыкі ўсім у Рэдакцыі і ў Школе Сьв. Кірыла Тураўскага!

З пашанай і любоўю а. Рабэрт Т.

*

Чыкаго, 17. VII. 67.

Дарагі А. Рэдактар!

А. Ул. Тарасэвіч з сваей сятрою спаткаў мяне на лётнішчы, тады самаходам паехалі да іхняе прыгожае царквы Сьв. Спаса.

У суботу 15. VII. увесь горад сьвяткаваў «Дзень Паняволеных Народаў». Між беларусамі і мне прышлося ўлучыцца ў паход: народу — маса, дый на вялікае дзіва выглядала, што найбольшы народ — летувісы, якія групавалі бадай палавіну публікі. Але чаму пад іхнімі сьцягамі маршыравалі нават нэгры, гэтага аніяк растлумачыць не патраплю.

Ужо меў я нагоду пабачыць гэты вялізны горад Чыкаго — першы раз я ў ім і, здаецца, ён шмат у чым ня ўступае Нью Ёрку, а беларусы таксама мяне міла вітаюць. — Учора (нядзеля 16. VIII.) служыў тут у Беларускай царкве Сьв. Спаса сваю «Прыміцыю» з А. Іванам Тарасэвічам, а хор сьпяваў нязвычайна прыгожа. Пасьле Літургіі радасна і прыязна спаткаўся і знаёміўся з тутэшнымі беларусамі, якія ўсей парахвіяй сабраліся ў салі: а на вячэру мяне забралі да сябе наймілейшыя Спадары-Спадарыні Ч-ія і М-чы.

І яшчэ мушу тут адведаць нямала іншых, а час ляціць шыбчэй ад самалётаў! Дня 28. VII. трэба быць ужо ў Таронта і на Выстаўцы ў Монтрэалі і яшчэ там...

І мае прывітаньні ўсім!

а. Рабэрт Т.

Паважаны Айцец Рэдактар,

У травенскім нумары «Полымя» я прачытаў наступную зацемку: «На выстаўцы, якая адбудзецца ў ангійскім горадзе Нотынгеме, будзе дэманстравацца каля пяцідзесяці работ беларускіх мастакоў. сярод іх творы І. Ахрэмчыка, Г. Ващчанкі, В. Грамыкі, П. Крохалева, А. Малішэўскага, М. Савіцкага».

Адразу я падумаў, што гэта пэўна мае быць тая выстаўка, якая павінна была адбыцца ў часе ад 26-га сакавіка да 13-га красавіка і аб якой я ўспамінаў у мінулым нумары «Божым Шляхам». Аднак запытаньні ў кіраўніцтве Нотынгамскага музэю і ў гарадзкім інфармацыйным бюро выявілі, што ніхто там ня ведае нічога аб ніякай выстаўцы.

Насоўваецца пытаньне: каму патрэбная гэтая камэдыя? Ці не на тое, каб стварыць уражаньне сярод беларусаў на бацькаўшчыне, быццам савецкая ўлада сапраўды стараецца вывесьці Беларусь на «міжнародную арэну» і ўзбудзіць у іх любоў і ўдзячнасьць да партыі і ураду?

Такім чынам выходзіць як у той прыказцы: «І воўк сыты і каза цэлая». Беларусы радыя, бо думаюць, што ангельцы сапраўды будуць мець змогу пазнаёміцца з беларускімі культурнымі дасягненьнямі. Савецкія ўлады таксама задаволеныя, бо яны ведаюць, што нічога падобнага ня здарыцца...

З глыбокаю пашанаю,

Simplicissimus

П. С. Нядаўна прышла вестка, што так разрэкламаваны ў савецкай беларускай прэсе Беларускі Дзень на міжнароднай выстаўцы ў Мантрэалі не адбудзецца. Quod erat demonstrandum, як кажуць у геамэтрыі.

## З беларускай пресы

РАДЫЁ «СВАБОДА»: 21. VI. 1967, № 4756. 1-ая частка. Кастусь Рамановіч пра 900-ы юбілей нашай сталіцы Менску. Аснаваньне Менску у 1067, калі на рацэ Нямізе ішлі крывавыя баі. Горад часта разбураўся войнамі і пажарамі, але захоўваў сваё аблічча. Частка старадаўных помнікаў трывала дасюль. Аднак пасьля II-ой вайны шмат старажытных будынкаў дашчэнту разбурылі...

К. Рамановіч гаворыць аб Марыінскім катэдральным саборы і аб гарадзкой вежы. Таксама і аб зьмене назовы гораду і вуліц у ім.

### ПАДЗЯКА

**Рэдакцыя «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» дзякуе чатыром Дабрадзеям за ахвяры прысланыя хвораму Віктару Небядовічу ў Бразыліі. Паведамляем тых ласкавых Дабрадзеяў з шт. Нью Ёрк, Ілліной (Чыкаго) і Массачузэт, што грошы ў той самай валюце перасланыя і хворы іх з падзякаю атрымаў. — Хто з нашых Суродзічаў меў-бы добрае сэрца ахвяраваць яшчэ, просім кіраваць на наш адрас, бо мы маем магчымасьць перасылаць у далярах, каб адрасат атрымаў таксама ў гэтай валюце. Хто-бы жадаў атрымаць ад Сп. В. Небядовіча паквітаваньне асабістае, дык мы перашлём яму Вашыя адрасы.**

**РЭДАКЦЫЯ**

Які жаль, што К. Р. ня вылічыў усіх цэркваў і касьцёлаў у Менску і ня выясьніў, што зь імі цяпер зроблена!? Гэта-ж самыя найважнейшыя помнікі!

І наагул нашая худая прэса на эміграцыі мала інфармуе чытачоў аб нашай спадчыне рэлігійнае культуры ў Савецкай Беларусі: нельга жаліцца, што зь нястачы месца на балонках, бо даецца залішне шмат інфармацыяў аб розных сьвяткаваньнях, а таксама аб прыкрых спрэчках у нашым грамадзтве.

НАВІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ: № 12 (83), 30 чэрвеня 1967. Палачане шануюць памяць слаўнага земляка: яго імя носіць Пэдагагічнае Вучылішча, адна з вуліцаў гораду і Гарадзкая друкарня.

СЯЎБІТ: Ліпень—Жнівень, 1967, № 58. Часапіс Вяліка-Літоўскі, Каталіцка-Грамадзкі.

БЕЛАРУС: № 121. Травень, 1967. Нью Ёрк і ВЕСТКІ КАНАДЫ. Надта паважны артыкул «Нашчадкі Гэрастрата»: як зьнішчылі савецкія камуна-атэісты царкоўныя гістарычныя помнікі ў Віцебску, складаючы адказнасьць на фашыстаў. Юры Віцьбіч дакумантальна апісвае, як навачасныя гунны памарнавалі нашыя рэлігійна-народныя помнікі: асаблівая страта — гэта царква Дабравешчаньня і велічны Вусьпенскі сабор!

### ВЯЛІКАЯ СТРАТА

**З глыбокім сумам паведамляем, што 5-га чэрвеня 1967 году нечакана памёр наш дарагі незабыўны муж і тата ЯНКА ДУБОВІК у веку 52-х гадоў.**

**Паховіны адбыліся 10-га чэрвеня а гадзіне 14-ай у Гортсдэл (Hortsdale) у Маўзалеум, Вэстчэстэр, New York, — Нью Ёрк, U.S.A.**

**Набажэнства і адпяваньне адправілі Архіяпіскап Васіль і Айцец Юры з Б.А.П. Царквы.**

**А таксама ў чацьвер 8-га чэрвеня набажэнства адправіў Айцец Пётра Дубовік з Канады, дваюрадны брат Янкі Дубовіка.**

**Аб балючай страце паведамляюць**
**Ніна Дубовік-Несьцяровіч,**
**Аўген — Ян Дубовік,**
**Альжбета М. Дубовік.**

# ВЕРШЫ

## «БЕЛАРУСЬ, ДЗЕ ТЫ?»

*У тое мне ня верыцца,*
*Што ўсё мінула, аджыло, —*
*Назад ужо ня вернецца, —*
*Шалёнаю мяцеліцай*
*Навекі замяло!*

*Што родны край далей вякамі*
*Ў няволі цяжкай мае жыць,*
*А нам па сьвеце жабракамі*
*З кіём і з торбамі хадзіць.*

*Я цьвёрда веру Божай волі,*
*А вера створыць дзіўны цуд:*
*Старонку нашу хто зьняволіў,*
*Пакліча Бог таго на суд.*

*А нам пашле дзянёк сьвітаньня,*
*Чаканы, пажаданы час —*
*Ў шчасьлівы дзень — ў нядзелю зраньня*
*Старонка наша вольнай стане —*
*К'сабе пакліча нас.*

*Мы зноў на Бацькаўшчыне будзем*
*Палоскі родныя араць:*
*У вольным краі поўнай грудзьдзю*
*Паветра сьвежае ўдыхаць.*

*І ў нашым полі, ў шэрым жыце,*
*Мы зноў убачым васілька,*
*Ў прасторах неба у блакіце*
*Пачуем песьню жаўрука!*

Н—скі

Чэрвень, 1967. Амэрыка.

## НОВЫЯ ВЕРШЫ ПАЭТАЎ САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ

Аўгіньня Кавалюк

*Ці-ж можна не заўважыць*
*нам*
*Расу на даланях*
*у мам,*
*Расу ад бульбы*
*і ад жыта,*
*Расу,*
*якая з потам зьліта?*
*Раса*
*з яе далоні мілай*
*Мяне, мурзатую,*
*умыла,*
*Дала ў руку мне*
*лусту хлеба,*
*Сказала: жыць*
*па людзку трэба...*
*І я жыву,*
*жыву і бачу,*
*Як праз дзяцей матулі*
*плачуць,*
*Як праз дзяцей сівеюць*
*скроні.*
*...Раса на матінай*
*далоні.*

*

*Прада мною Балтыйскае мора,*
*Наваколььле усё —*
*сіняя сінь.*
*Я паслухала:*
*з сіні гаворыць*
*Нёман мой,*
*майго Нёмана плынь.*
*І здалося мне —*
*з хваль выплывае*
*Наднямоньне маё,*
*родны дом.*
*Стала сумна*
*у гэтым мне краі,*
*Мне-б застацца з казачным сном.*
*Я ня знаю,*
*ці ёсьць дзе на сьвеце*
*Прыгажэйшы куточак,*
*чым той,*
*Скуль усё мацярынскае сьвеціць,*
*Саграваe сваей цяплынёй...*

(З зборніку вершаў «Маўклівыя скарбы», Менск, 1966)

Аўгіньня Кавалюк нарадзілася ў 1935 г. ў вёсцы Стральцы ў Скідзельскім раёне. Скончыла Горадзенскі Пэдагагічны Інстытут ім. Я Купалы і цяпер працуе настаўніцай у Рызе ў Лацьвіі.

*Вінцук Адважны*

# Апэль да курцоў

Тытунь або табак — расьціна, якая выводзіцца з Амэрыкі. У Караібскім моры адна з Антыльскіх выспаў называецца ТАБАГО. Ужо Калюмб, адкрыўшы Амэрыку, адкрыў тамака і тытунь: чырвоныя індыяне курылі і прапанавалі эўрапэйцам. Гэтыя прабавалі, кашлялі і лілі сьлёзы, а індыяне з іх сьмяяліся і хвалілі, што гэта прыемна! Аж і сапраўды некаторыя белыя людзі скора прывыклі і перавезьлі гэтую прыемнасьць у Эўропу. Так цяпер курыць увесь сьвет! Старшыя ўцягіваюць малодшых, сьмяюцца з няўмекаў, а тыя стараюцца паказаць сваю адвагу, мужнасьць . . .

І характэрна вось што: калі курэц не бравіруе, а гаворыць шчыра, то і сам асуджае сваю прывычку. І ўсе ведаюць, што курэньне шкодна, але кураць далей, нават самі дактары. І ўжо жанчыны пачалі імітаваць мужчын. Але аб гэтым — пасьля!

Спачатку ў Эўропе тытунь спаткаў моцны супраціў: сталі з ім змагацца ўрады, лекары, духавенства і народныя масы. Аднак ніхто ня мог перамагчы тытуню. Урадова ў дзеякіх краёх моцна каралі, а духавенства вельмі ганіла і стыдзіла. Але курцы пачалі ганарыцца сваім навыкам, як самі думаюць, «шляхотным» звычаям.

Вы толькі прыгледзьцеся такому важнаму курцу, асабліва, калі не мае яшчэ 20-ці гадоў, як высока падыймае галаву і нос, а дым пускае аж пад хмары! І як нізка зыходзіць у такім таварыстве няўмека, калі, абкураны з усіх бакоў, закашляны, ня ведае, куды падзецца! . .

Я ня ўмею гэтага растлумачыць, чаму з правага і з левага боку дым ад папяросаў абавязкава паўзе да мяне і лезе ў вочы? Калі-ж гэта патрывае даўжэй, мне пачынае балець галава. Але курцы гэтым лёгкаважаць. Здараецца, што пытаюць, ці можна закурыць? і, не чакаючы дазволу, ўжо скрабуць запалкай па скрыначцы.

## ПЕРАМОГА ДЫМУ

Што ў цяперашнім сьвеце дым узяў верх, у гэтым няма ні сумніву, ні пратэсту. Палічыце ў цягнікох вагоны для курцоў, перавага будзе жахлівая: мы, няўмекі, дастаём мізэрную частку і горшае месца. Ці-ж курцоў больш як вольных? Але дзе-ж там! Адлічыце дзяцей, падросткаў і жанчын, якія кураць яшчэ вельмі мала, — ды і мужчын добрая палавіна ня курыць, — дык на курцоў выпадзе ня так ужо шмат. Дык чаму папяроса бярэ верх?

Прычына простая: курцы ўкладаюць усе праграмы сужыцьця.

Вось маемо прыклад: У сям'і (возьмем нармальную сям'ю — бацька, маці, дзеці) курыць, ведама, адзін бацька. Ён мае апраўданьне: пасьля працы яму трэба адпачыць, а тады найлепш — закурыць! Да гэтага прывык увесь сьвет. Бацька мае права «супакоіць свае нэрвы». Значыць, пасьля абеду ён сядзіць раскошна і курыць зацяжна, прытым разглядае газэту, ці нават бярэ на рукі дзіця і . . . курыць!

Бацька — «пан дому», яму ўсё пазволена. Прытым бацька пільна сьлядзіць, каб хлапцы ня курылі: хавае ад іх тытунь і папяросы. Сам добра помніць, як калісьці краў ад бацькі, дык не даверае і сваім дзецям. А дзеці ўсётыкі ўхітраюцца папробаваць забароненага . . . І такі парадак трывае праз некалькі пакаленьняў, а можа і 100—200 гадоў.

## ШКОДЫ

Самі дактары найлепш ведаюць аб шкодзе для здароў'я, але і яны кураць! Ня буду тлумачыць, што гэта неразумна, што гэта марнатраўства, бо кураць вучоныя і філязофы, багатыя і бедныя, і скупыя і асобы духоўныя. Папа Лявон XIII, чалавек вялікай навукі, зажываў табаку — аж абсыпаў ёй сваю белую сутану! Калісьці пробавалі курыць нават у касьцёлах — аж біскупы гэта забаранілі!

Дык нашто я пішу гэты артыкул? Я дасканальна ведаю, што нікога з курцоў не пераканаю. — Аднак я маю моцную прычыну: хачу бараніць людзей вольных, якія падпалі ў няволю курцоў. Курцы, праўда, вельмі самі сабе шкодзяць, але гэта іхная справа. А вось мы . . .

Прыгледзімся яшчэ таму бацьку, аб якім мы гаварылі: ён мае сваю рацыю — «супакоіць нэрвы» . . . Але якое ён мае права псаваць нэрвы жонцы і дзецям? Ды і той самы бацька, накурыўшы дыму поўную хату і сам прывыкшы да дыму, ўсё-ж зара ўстае і выходзіць на двор праветрыцца, а матка і дзеці астаюцца ў хаце — ў чадзе і далей труюцца бацькавым дымам! Тымчасам здароў'е дзяцей важнейшае як здароў'е бацькі . . .

Або вось мяне добрыя людзі запрашаюць у госьці: ставяць на стол усё найлепшае і зь вялікай радасьці пры мне кураць! Ці-ж яны ня ведаюць, што робяць мне вялікую прыкрасьць? А каб сам госьць (выбачце гэтае слова!) сапсаваў паветра? Падумалі-б: «Эх, сьв . . . !» Чаму — тады цэняцца справы так нераўнамерна?

І яшчэ адно зьявішча: я еду цягніком — аж

уваходзіць у вагон малады чалавек, сядае насупраць мяне і пачынае курыць. Перад сабою бачыць перасьцярогу: «Ня курыць!» Яму людзі паказываюць, а ён дае дыму яшчэ больш! Я незаўважна ўстаю і нечакана вырываю папяросу з яго зубоў і выкідаю праз вакно... Тут, ведама, абраза: ён падае мяне ў суд. Я прызнаюся. Прытым характэрна, што судзьдзя, пракурор, адвакаты і сакратар суду — ўсе курцы! Аднак гэта ня йдзе ў рахунак: я дастаю штраф, плачу кару. Усе думаюць, што гэта справядліва, хоць тыя, што ўкладалі гэты закон, таксама прытым курылі...

## ВЕТЛІВАСЬЦЬ

Курцы слаўныя з ветлівасьці: кажны аддасьць апошнюю запалку, перапросіць, падзякуе. Дае прыкурыць нават вораг ворагу! Усе курцы ўсіх краёў гэтага трымаюцца — і стары дзядуля і малы хлапец: пры куреньні — ўсе роўныя. І курцы — людзі шаноўныя!

Калі аднойчы ў сібірскім лягеры пры рабоце я прысеў адпачыць, дык брыгадзір зара загаманіў: «Чаму не працуеш?» Я-ж паказаў яму на гурток курцоў. Дык брыгадзір кажа: «Яны-ж кураць!» Значыць, яны, хоць маладзейшыя, маюць права адпачыць, а я, як няўмека, ня маю права...

Мушу тут апісаць адзін выпадак адменны. Было гэта ў Манджурыі, ў гор. Харбіне, ў 1934 г. Я сеў у аутабус, які стаяў на апошняй сваей станцыі ў Старым Харбіне, 4 км. ад гораду. І вось уваходзяць тры кітайцы: высокія, худаватыя, адзетыя ў прыстойныя свае халаты і вельмі жыва аб нечым гутараць. Селі і адразу дасталі папяросы і ўсе тры закурылі. Я паказаў ім на таблічку, што «нельга курыць»! Але тут важная дама, што сядзела ля мяне, перабівае мяне па расейску: «Что вы ім показываете? Они же этого не понімают. Оні — азіяты!...»

Аж у той самы момант усе тры кітайцы загасілі пачатыя папяросы і далей вялі сваю шыбкую гутарку. А я кажу той даме: «Бачыце, яны лепш разумеюць ветлівасьць, як нашыя белыя».

У 1953 г. у гор. Грудзіондз, у Польшчы, я меў у шпіталі апэрацыю: Мне разрэзалі жывот і нешта там сшывалі. Са мной у тым самым пакойчыку ляжаў малады чалавек гадоў 21-22, які меў падобную апэрацыю. Нам нельга было падымацца з ложка 10 дзён. Як нам палягчэла, мы разгаварыліся аб курэньні. Я яму прачытаў цэлую лекцыю аб шкоднасьці тытуню. Ён зусім са мною згаджаўся, але зара пытае: «Ці можна будзе тут курыць? Я-ж яму адрэзаў: «Я не пазваляю! Калі аднак хочаце, дык курыце без пазваленьня!» Ён замоўк, разважаў і... ня курыў, нават ня ўспомніў больш аб гэтым да канца хваробы.

## ПРЫВЫЧКА

Навык да курэньня такі ўпарты, што немагчыма ад яго адчапіцца: зрэшты, залежыць ад таго, як моцна чалавек уцягнуўся. Ёсьць асобы, якія лёгка пачынаюць і кідаюць курэньне. Але я сам спатыкаў такіх, якім забаранялі дахтары і якія ужо пастанаўлялі кінуць і — не маглі! Або кідалі і вярталіся. Падобныя ёсьць хваробы, што ўпарта вяртаюцца, як рэўматызм.

Са мною сядзеў у турме, ў Сібіры, адзін расеец, які бяз тытуню проста сходзіў з розуму! Даставаў салому з сянніка на папіросу. І ня было агню: ён даставаў вату з адзежы і векам ад парашы качаў яе на бэтоне, каб дабыць агонь. А гэта наглядчыкі срога забаранялі... Што ён вырабляў, як ён мучыўся!...

А ў лягерах былі такія аматары-курцы, што цэлымі днямі працавалі — аж ім дух займала! каб дастаць ад брыгадзіра «канчарык» папяросы. А брыгадзір, як важны пан, курыць доўга і зацягіваецца моцна: бедны інвалід сядзіць ля яго як на шпільках, глядзіць у вочы як у люстра і чакае таго канчара. Дый усёроўна доўгага не дастане... Ну, узяў! і цягне, дэлектуецца, — аж прыпалівае агнём пальцы! але няма з чаго цешыцца, бо ўжо пячэ сабе вусны і... астаецца толькі сама папера.

А іншыя інваліды паўгалодныя, мізэрныя — скура ды косьці — мяняюць хлеб на тытунь, каб дастаць яго хоць скрыначку ад запалак. І які тытунь? самыя ражончыкі ад сьцябла!

У 1903 г..., калі мне было 13 год і я быў маленькім хлопчыкам (я рос вельмі марудна) і хадзіў у гор. Ашмяны ў школу, я пераходзіў за горадам міма турмы. Там ля турмы была рабочая зона, дзе турэмнікі пілавалі дровы. Я тады не дагадываўся, што пасьля паўвеку сам буду ў падобных абставінах (Сібір-Іркуцк) пілаваць дровы.

Аднойчы, калі я вяртаўся са школы, адзін вязень кіўнуў на мяне праз агарожу. Я падыйшоў да плоту, а ён тыцкае мне грошы і кажа: «Вярніся ў горад, купі нам тытуню «карашкі»! Я пабег-купіў, а ён мне выдзяляе некалькі капеяк за фатыгу. Я-ж быў вельмі бедны хлопец, аднак атрос рукі і ня ўзяў. Ён яшчэ ківаў рукамі, але я ўцёк. Тады ў нас завязалася дзіўная дружба: ў іх, відаць, стварылася апінія ў маю карысьць. Мяне клікалі часьцей... Але ўсё мае свой канец: адзін раз я прынёс тытунь і сьмела падыйшоў да плоту, а там стаяў наглядчык і ганебна крычаў на мяне і на вязьняў. Мяне больш ня выклікалі. — Мне дужа было іх шкода і я сумна паглядаў на вязьніцу.

## ДАКУКА

Колькі клопату маюць курцы з нешчасным курэньнем?! Але зашто мы маем праз іх паку-

таваць? Паслухайце! Было гэта ў 1915 г. познай восеньню. Была вайна і мы знайшліся пад нямецкай акупацыяй. Я трапіў у Вільню і мяне назначылі ў Беластоцкі павет. Але лінія чыгункі была перарвана ў Горадні на рацэ Нёмане. Дык я дастаў у немцаў пропуск праехаць праз Усходнія Прусы. Еду. Якраз з фронту ехала ў Нямеччыну шмат жаўнераў і набілася іх у наш вагон бяз ліку: нельга было рушыцца з месца. Духата ў вагоне і цесната! Зьвечарэла, а сьвятла ў цягніку не давалі. Дый гэта яшчэ нічога. Раптам адзін-другі жаўнеры закурылі цыгары: я сядзеў у вянку цыгараў як у хмарах дыму. Мне так разбалелася галава, калацілася сэрца, дык я думаў, што памру! — Тады я пераканаўся, якая гэта атрута-нікатына. А курцы ня могуць без яе абыйсьціся — так яна ім смакуе. — Не дарэмна рымляне казалі, што «аб густах нельга спрачацца».

Колькі я цярпеў ад курцоў у лягерах, аб тым казаць ня буду: тое апісана ў маей кніжцы «Успаміны. — Кітай-Сібір-Масква», дык туды адсылаю мілых Чытачоў.

А колькі дакукі бедным жанчынам, калі курцы рассыпаюць усюды свой попел, або пакідаюць смылячыя папяросы, або ўтыкаюць запалкі ў вазоны, ці кідаюць папяросы на падлогу і размазываюць ботам, ці трымаюць папяросы ў пальцах бязконца доўга і г.д. . . .

А колькі, бывала, небасьпекі прычыняюць падросткі, калі кураць у потайкі! І колькі ад таго пажару, і як хлопцы псуюць сабе, гэтак крадучыся, характар. — Ці бацькі ня могуць зразумець, што за гэта адкажуць прад Богам?

## ЖАНЧЫНЫ КУРАЦЬ

«Як роўнасьць, дык роўнасьць!» так тлумачыць Ляля Уткнінос. Няхай будзе і так. Але папрабуем шукаць прычынаў, чаму жанчыны кінуліся курыць?

Адны кажуць: «Каб лепш падабацца мужчынам . . . ».

Здаецца, аднак, што мужчыны больш адварочваюцца ад такой жанчыны. А другія называюць гэта пустатой і бравурай, — такая кандыдатка падрабляе сябе пад мужчыну: такую дзяўчынку называюць «хлапчыца»! Але Бог з імі!

Так! Але вось дзяўчына выходзіць замуж і трапляе ў чужую сям'ю. Пытаньне: як гэта заручаны хлапец ці жанаты цалуе сваю ненаглядную, калі яна накурыцца і намажа сабе губы? Дый гэта яшчэ нічога! Але як адважыцца матка з папяросай трымаць на руках дзіця? Ці, накурыўшыся, цалаваць яго? Падросшае дзіця можа яшчэ ад такой маткі ўцячы, адвярнуцца, ці адбіцца... але маленькае дзіцятка мусіць цярпець такую «маляваную» любоў. О, я сто разоў удзячны сваей маці, што ня курыла і не мазала сабе губаў, а любіла мяне проста і шчыра!

Мілыя беларускія жанчыны, ня гневайцеся, але разважце і напішыце мне адказ! Што Вы самі аб гэтым думаеце?

## ЦІ МАГЧЫМА АДВЫКНУЦЬ?

Бывае ў гародзе караністая бручка, ці морква: націна адрываецца, а корань астаецца ў зямлі. Падобна і навык чалавека, як укараніцца — няма ратунку! Кажуць, што такога паправіць толькі магіла. — Але паслухайце выпадак, які пярэчыць усім рацэптам:

У Харбіне ў нашай школе працавалі два старыя прыяцелі інтэлігенты, якім ужо добра перайшло за 70 г. Курылі па 50 гадоў — заўзята, дружна і бяз перапынку. Аж надыйшла японска-амэрыканская вайна. У Манджурыі гаспадарылі японцы: ў іх усё ішло на вайну, а людзям было жыць дужа цяжка. І курэньне значна падаражэла. Нашыя два старыя (К. Дзьмітроў і Раман Барыловіч) сталі падумываць, як адвыкнуць ад папяроскі. Аднак іх усе курцы асьцерагалі, што даўгавекім курцом нельга кідаць. Але К. Дзьмітроў адважыўся і кінуў! Усе калегі трывожна паглядалі, што зь ім будзе? Аднак нічога не стала . . .

А Барыловіч яшчэ трымаўся за папяросу. Прайшло пару месяцаў і пан Раман пачаў у голас думаць: «Я вельмі люблю булачку з мёдам. Калі буду курыць, дык мне ня стае на булачку . . . Што рабіць?» — Булачка мігцела яму перад вачамі — аж і перамагла! Кінуў курыць і ён. І аказалася таксама бяз шкоды. — Тады наш сакратар узяў Барыловіча на экзамен: толькі часу курыў, колькі папяросаў выкурываў у дзень, і якой даўжыні кажная? — Усё добра абрахаваўшы, знайшоў, што пан Раман выкурыў папяросу даўжыні каля 12-ці кілямэтраў!

Цікавасьць, колькі коняў трэба было-б запрэгчы, каб такую папяросу цягнуць за собою? Але, як відаць, то і ад такой даўжэзнай папяросы можна адвыкнуць.

## ЦІ ГРЭХ КУРЫЦЬ?

Мяне няраз у школе пыталіся вучні: «Ці грэх курыць?»

Адказ: гэта паводле варункаў. Няма ніякага граху таму, хто сам зарабляе. Далей: хто мае добрае здароўе, а прытым ня шкодзіць другім, асабліва дзецям.

Дзецям і моладзі курыць нельга: яны грашаць супраць паслушэнства, супраць здароўя, дый прытупляюць розум да навукі. Марнуюць чужыя грошы — найчасьцей на гэта крадуць, а хаваючыся, прычыняюцца да шкоды, асабліва да пажараў.

Падросткі і моладзь, апрача таго, грашаць згаршэньнем, калі прывучаюць яшча меншых.

Духавенства спачатку востра выступала супраць курэньня, але пакрысе пераканалася, што нікатына розуму не адыймае, значыць, граху тут няма. А дзеля таго, што нікатына то ўспакойвае, то эксцытуе нэрвы, (ну, я сам гэтага не разумею!), ды і само духавенства пачало ўцягвацца ў курэньне. Даўней любілі *нюхаць* — «зажываць» табаку, найбольш манахі-бэрнардыны. Ля табакі стварылася цэлая літаратура-прымаўкі, жарты, анэкдоты і байкі. Але пакрысе табака выйшла з моды.

Апрача таго тытунь *жавалі,* найбольш у Амэрыцы. Але й гэта адыйшло: перамянілі тытунь на гуму і тую жавалі з вялікім апэтытам, ведама, амэрыканцы! Дый і гэта у іх адыходзіць.

Хоць мы павінны дзякаваць Амэрыцы, што дала нам бульбу, (бо якжа-бы беларусыператрывалі войны і рэвалюцыі, каб ня бульба?), але за тытунь, (каб ён згарэў!), дзякаваць ня варта. Гэтулькі бедаў і пажараў ён прычыніў, такія выдаткі і грахі праз яго, што ўжо і жанчынам ня варта вучыцца курыць!

Старыя людзі заўзята курылі *люльку.* І люлька трапіла ў паэзію. Тыпічны дзядуля сядзіць, бывала, на прызьбе, курыць люльку і расказвае ўнукам аб старых падзеях. А нават дактары стаялі за люльку, бо яна ня так шкодная, як папяросная папера. Аднак і люлька ня ўтрымалася: ўсё перамагла *папяроса!* Цяпер-жа пайшоў алярм, што тытунь прычыняе хваробу *рак лёгкіх:* у некаторых краінах паўстаюць спэцыяльныя шпіталі, дзе адвучваюць заўзятых курцоў (у Швэцыі).

Рэлігіі і Цэрквы маюць нешта супраць курэньня: праваслаўныя стараверы ўважаюць курэньне за вялікі грэх.

У каталіцкай Царкве манахам не пазваляюць курыць, хоць некатарыя законы кураць запоем (езуіты). У іншых законах трэба мець ад свайго генэрала спэцыяльнае пазваленьне. Дый курэц ня бывае пасьля сьмерці прызнаны сьвятым! Значыць, гэта ўважаецца за дэфэкт у сьвятасьці, як навык людзкой слабасьці.

І нашая народная мудрасьць у сваіх прыказках уважае тытунь за «чартоўскае зельле». У нас калісьці казалі, што найбольшую люльку — вялізарны кацёл! — курыць у пекле сам Люцыпар. І наш народ наагул брыдзіцца курэньнем, асабліва жанчыны. Вось прыказка: «Хто нюхае табаку, той горш за сабаку!». Або: «Куры, куры, а нас ня дуры!». І ведамы ёсьць праклён: «Каб твая шэрсьць курэла!».

Некаторыя баяцца, што нельга курыць перад споведзяй і Сьв. Прычысьцем, хоць такога царкоўнага закону няма.

# «Даўгалецьце»

Савецкая прэса даволі часта ўспамінае аб сваіх старых, што перавысілі 100 год. Ведама, гэта робіцца з думкаю прапаганды. Ну, і няхай сабе! Аднак мяне, як чалавека немаладога, зацікавіў сапраўдны «старавечнік» Шыралі Мысьлімаў з Азарбэйджану, які лічыць сабе 161 год!

Ён атрымлівае нямала лістоў з цэлага сьвету, у якіх цікавыя людзі дапытваюць Шыралі-бабу (так яго называюць), як ён дажыў свайго веку і што рабіць, каб дайсьці да 100 гадоў? Ён адказвае, што чалавек, які да 30 год не хварэў, павінен дажыць да сто год, абы толькі ня курыў і ня піў. Вёска Барзаву, дзе жыве Шыралі, ляжыць у высокіх гарах: сьвежае паветра і чыстая вада — гэта вельмі важная крыніца даўгалецьця. І такжа неабходныя варункі здароўя — гэта праца: уласна, бязупынная праца паслужыла Шыралі да добрага здароўя і магчымага шчасьця. Прытым ён адзначаецца добрым і спакойным характарам: ніколі не злаваўся, не зайздросьціў і ня нэрваваўся. Любіў езьдзіць на асьліку конна і гэтую прагулку любіць дасюль.

Запрашаюць Шыралі ў розныя краі, але адказваецца тым, што ня пераносіць язды самаходам і ня церпіць запаху бэнзыны. Калі прасілі яго наведаць Індыю, адказаў: «Прышліце мне добрага каня, які перанясе доўгую дарогу!»

Аўтар артыкулу, зь якога мы ўзялі гэтыя весткі, («Чырвоная зьмена», № 118, 18 чэрв. 1966), відаць, не адважыўся ўспомніць, што Шыралі — чалавек веручы ў Бога — Аллаха, як верны магамэтанін. Бо гэтыя цноты, якія ўсё жыцьцё практыкаваў Шыралі і якія паслужылі яму на «многая лета», узятыя з мусульманскага Карану. А маральная навука Корану зыходзіцца з навукаю Эвангельля і супраціўляецца навуцы савецкага атэізму.

## ДЛЯ ЦІКАВАСЬЦІ І НАВУКІ

Амэрыканскі доктар Оскар Ауэрбах праводзіць крапатлівыя спробы, каб прывучыць у звычку курыць сабак і прасьледзіць пасьля, ці будуць у іх праявы рака лёгкіх: гэтак ён маніцца прасьлядзіць паступовасьць хваробы, тасуючы аналёгію да людзей. — І вось фактычна даходзіць да перакананьня, што курэньне выклікае вынікі шкодныя і сталыя ў лёгкіх і робіцца перасьцярога для людзей, якія кураць празьмерна і ўцягнуліся ў звычку. — Аднак аказваецца, што пагроза мала ўплывае на заўзятых курцоў: праўда мужчыны крыху больш прыймаюць лекарскія заўвагі да сэрца, затое жанчыны кураць яшчэ больш, чым дасюль бывала. — А нават і сабакі прывыкаюць да курэньня!..

## ПАВАЖНЫЯ ЖАРТЫ

На мітынгу ў Баранавічах лётчык-мільёншчык гамоніць:

— Я зрабіў у паветры мільён кілямэтраў; я падыймаўся ўгору да 10-ці кілямэтраў і — ведаеце — анідзе Бога ня ўбачыў!

Яму б'юць брава.

Голас з народу: — Дарэмна ты шукаў Бога так далёка і высока! Другі раз, як бразьнеш з самалётам на зямлю, дык адразу Бога ўбачыш!

А гэтаму б'юць яшчэ большае брава.

*

У калгасе Чырвоны Танк старшыня кажа да лектара:

— Вы непатрэбна чытаеце лекцыі супраць рэлігіі: цэрквы пазакрывалі, абразы па хатах зьнялі, духавенства няма: значыць, усё скончана!

А лектар кажа: — Так — то так! Але Бог хаваецца ў сэрцах...

І лекцыя адбылася. — Аднак посьле лекцыі сакратар камуны насварыўся на лектара:

—Як-жа ты мог так адказаць? Кажаш: — «Бог у сэрцах...» Ты -ж гэтым пацьвярдзіў, што Бог існуе.

— Выбачце, гаманіў лектар: — я й сам ня ведаю, як гэта ў мяне сарвалася з языка: простэ, чорт папутаў!

## ЗАГАДКІ

1) Не гарыць, а тлее, — а хто паліць — дурэе... — Што гэта?

2) І ляжыць і бяжыць: Сама ня йдзе, а другіх вядзе... — Што ці хто?

3) На Ўсходзе цягаюць за хвост, а на Захадзе — за вуха...

4) Пакуль ляціць, мусіць піць. Як не нап'ецца, дык разаб'ецца...

5) Фурман
Сядзіць як пан:
Паглядае наўкола
І круціць пятае кола...

6) У сэрцы агонь,
А наўкол вада:
Як выскачыць з дарожкі,
Бяда!..

7) Спераду зубы перабіраюць,
Ззаду за хвост цягаюць...

8) Ня ходзіць, ня едзе;
Не стаіць, не ляціць,
А заўсёды назад падаецца...

9) Сьпявае без языка,
Іграе бяз нотаў,
Сьмяецца — рагоча,
Лапоча — балбоча;
Хоць і слухай,
Крычыць. —
Закруціш за вуха, —
Маўчыць...

## У НАШЫМ ВЫДАВЕЦТВЕ МОЖНА КУПІЦЬ НАСТУПНЫЯ КНІЖКІ:

| | $ | | £ |
|---|---|---|---|
| БОЖЫМ ШЛЯХАМ — Малітоўнік для Беларусаў . . . | 0,30 | або | 0,2,0 |
| ГОЛАС ДУШЫ — Малітоўнік для Беларусаў (лацінкай) . | 0,75 | „ | 0,5,0 |
| «БОЖЫМ ШЛЯХАМ», час. — камплект за 1948—55 . . | 7,50 | „ | 2,10,0 |
| «БОЖЫМ ШЛЯХАМ», час. — камплект за 1964—65 . . | 7,50 | „ | 2,10,0 |
| «БОЖЫМ ШЛЯХАМ», час. — гадавік за 1966 . . . . | 3,25 | „ | 1,5,0 |
| *А. Л. Гарошка.* ДУША — кароткі апол. нарыс . . . . | 0,25 | „ | 0,1,6 |
| *А. Л. Гарошка.* ПАХОДЖАНЬНЕ ЧАЛАВЕКА . . . | 0,25 | „ | 0,1,6 |
| *А. Л. Гарошка.* Сьв. ЕЎФРАСІНЯ — Прадслава Полацкая патр. Беларусі . . . . . . . . . . . . | 0,50 | „ | 0,4,0 |
| *Г. Шільген.* Апрацаваў *В. Друя.* ТЫ І ЯНА . . . . . | 0,90 | „ | 0,6,0 |
| ПАПА ПІЙ XII — ЭНЦЫКЛІКА адносна Кат. Царквы на Беларусі . . . . . . . . . . . | — | „ | 0,1,0 |
| *А. Я. Гэрмановіч.* КІТАЙ—СІБІР—МАСКВА — Успаміны . (Увага: У аўтара Я. Г. можна купіць польскі пераклад Успамінаў). | 3,00 | „ | 1,0,0 |
| *Вінцук Адважны.* КНЯЗЬ І ЛАПАЦЬ. Сучасная Казка . . | 3,00 | „ | 1,0,0 |
| *Мікола Куліковіч.* БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫКА. Гістар. нарыс. | 1,50 | „ | 0,10,0 |
| Др. *Я. Станкевіч.* Этногр. і Гістор. Тэрыторыі і Граніцы Беларусі . . . . . . . . . . . . . | 0,75 | „ | 0,5,0 |
| *Пракоп Каваль.* БЕЛАРУСЬ у Датах, Ліках і Фактах. Другое Выданьне . . . . . . . . . . | 1,75 | „ | 0,13,0 |
| МУЗЫКА І ЧЭРЦІ. Народная Казка . . . . . . . . | 0,15 | „ | 0,1,0 |
| The Journal of Byelorassian Studies. (1965) . . . . . . . | 1,— | „ | 0,7,0 |
| Biełaruski Zbornik — Studium Instytutu w Munchen Nr. 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 10, 11, 12 — pa . . . . . . | 1,50 | „ | 0,10,0 |

Adras Wydawiectwa: Marian House,

Holden Avenue, London, N. 12,
Gr. Britain.
Rev. J. Hermanowič.


## ЗЬМЕСТ:


Доктар Францішак Скарына (1517—1967) . . . . . . . . . 1
а. Фэлікс Журня: Павал VI-ы ў Фатіме . . . . . . . . 4
Я. Савіцкі: Біблія — Сьв. Пісьмо . . . . . . . . . . 4
З царкоўнага жыцьця . . . . . . . . . . . . . . 7
З беларускага жыцьця . . . . . . . . . . . . . . 10
З лістоў у рэдакцыю . . . . . . . . . . . . . . 12
З беларускае прэсы . . . . . . . . . . . . . . 15
Нэкралёг — сьв. памяці Янка Дубовік . . . . . . . . 15
Паэзія — новыя вершы . . . . . . . . . . . . . 16
Вінцук Адважны: — Вольная трыбуна — Апэль да курцоў . . 17
«Даўгалецьце» . . . . . . . . . . . . . . . . . 20
Для цікавасьці і навукі, паважныя жарты, загадкі . . . . 21


Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.